*Няхай жыве саюз рабочых і сялян*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

**№ 1 (20-21).** Студзень 1928 г. **№ 1 (20-21).**



**Трактар „Белар. Вёскі“, выданы сялянам Заслаўскага раёну за лепшае распаўсюджваньне „Бел. Вёскі“**

---

## У НАВУКУ

Ю. Таўбін



Ад бацькаўскіх гоняй,
Пахілых ваколіц,
Бязьмежных абшараў
Радзімай зямлі...
Ад роднага поля
У горад сягоньня
Магутнаю рацьцю
Мы разам прышлі...
Схіляліся нізка
Бярозы хісталіся
Пажоўклыя клёны
Ў чорную ноч.
Хаваліся далі
За сіняй заслонай,
Сьлязамі імжа
Засьцілала вакно...

Заплакала маці
Па сыне каханым,
Лічыла прапаўшым
На сьвеце на век,
Бо думала-страціць
Лясы і паляны
Слухмянага сына
У золі завей...
А шлях расьцілаўся
Істужкай нязнанай
І віўся ў бязьмежжы
Краіны маёй
І я разьвітаўся
З матуляй каханай,
Пашоў на спатканьне
Зацьвіўшай вясьне.

. . . . . . .

Гады праміналі...
Жыцьцёвыя хвалі
На новы паўстанак прыносяць мяне..
Я хутка зьвярнуся
Ў палі Беларусі,
Прыду з падарункай маёй старане.
І думкай вітаю, свабодны мой краю,
Лясныя абшары, загоны, палі.
З жытнёвага поля
З далёкіх ваколіц
Мы ў шумны горад сягоньня
прышлі.

# За культуру жыцьця і працы

„Нужно добиться долгой и кропотливой работой полного преодоления бюрократизма. Нужно добить язву неграмотности, невежества, некультурности. Нужно добиться на деле того, чтобы решительнее итти к „государству—коммуне".

. . . . . . . . . . . .

„Социалистическая рационализация хозяйства, повышение его техники и его организации, рост трудовой культуры, уничтожение рабских привычек и рабского темпа работы—должны быть поставлены во главу угла".

З маніфэсту ЦВК СССР да 10-ай гадавіны Кастрычніка.

## Важнасьць пытаньня культурнай рэволюцыі

Тав. Ленін незадоўга да свае сьмерці ў артыкуле „Аб коопэрацыі" рубам ставіў пытаньне аб культурнай рэволюцыі. Ён пісаў, што **„для нас досыць цяпер гэтай культурнай рэволюцыі для таго каб стаць зусім соцыялістычнай краінай"**.

У другое дзесяцігодзьдзе Кастрычніка мы ўвайшлі з вялікімі дасягненьнямі. Аднак іх яшчэ занадта мала, каб хутчэй выканаць тыя задачы, якія стаяць перад намі. Галоўная-ж з іх—далейшае разьвіцьцё міжнароднай рэволюцыі і соцыялістычная перабудоўка чалавечай грамады.

Нам трэба рацыяналізаваць нашу прамысловасьць, хутчэй індустрыялізаваць усю краіну.

Побач з разьвіцьцём прамысловасьці трэба шпарчэй і больш рашуча перабудаваць сельскую гаспадарку. Апошняя павінна быць машынізавана, пастаўлена на новыя соцыялістычныя рэйкі.

Усё гэта патрабуе ад нас большай культурнасьці, большых ведаў, большага ўменьня выкарыстаць наш час, працаздольнасьць, сродкі.

А культурнасьці як раз нам і не хапае. Гэта можна бачыць і ў прыватным жыцьці кожнага з нас, і ў працы, і ў адносінах паміж людзьмі.

Таму тав. Бухарын, выступаючы на апошняй Маскоўскай партконфэрэнцыі, сказаў, што: ніколі яшчэ культурная рэволюцыя ня стукалася так у дзьверы нашай партыі, як стукаецца яна зараз".

З гэтага выразна відаць, што пытаньне культурнай рэволюцыі ставіцца партыяй у цэнтры нашых задач. Навакол гэтага пытаньня і павінна быць мабілізавана зараз увага ўсіх працоўных.

## Грунт нашых сучасных і далейшых дасягненьняў

Калісь людзі, якія нібы хацелі палепшыць становішча працоўных выкінулі лёзунг „Праз асьвету да свабоды". Але жыцьцё паказала няпэўнасьць, хлусьлівасьць гэтага лёзунгу. Дужа добра відаць гэта калі паглядзець на становішча ў буржуазных краінах. Там культура расьце і мацнее на грунце эксплёатацыі і падняволеньня працоўных. Там усе здабыткі культурныя ідуць на карысьць прыгнятацеляў—паноў, капіталістых і тых хто ім верна служыць. Там пры дапамозе культуры яшчэ мацней стараецца буржуазія пазбавіць рабочых клясавай сьвядомасьці, прыдушыць у іх усякую думку аб волі, аб новым лепшым жыцьці.

Зусім інакшыя ўмовы ствараюцца калі пролетарыят бярэ ўладу ў свае рукі. Тады, мы як бачым на прыкладзе нашай краіны, усе культурныя здабыткі ідуць на карысьць раней прыгнечаных. Таму правільным трэба лічыць лёзунг „праз свабоду да асьветы".

Палітычны і соцыяльны пераварот у кастрычніку 1917 году і зьяўляецца тым грунтам на якім мы маем сёньняшнія дасягненьні ў галіне культурнага будаўніцтва.

Гэты пераварот, наяўнасьць улады ў руках рабочых і сялян дае нам магчымасьць і прымушае яшчэ мацней узяцца за справу культурнай рэволюцыі, культурнай пераробкі саміх сябе.

## Асаблівасьці становішча Сав. Бел. і культурная рэволюцыя

Калі ў умовах Савецкага Саюзу пытаньне культурнае рэволюцыі ставіцца так востра, то яшчэ вастрэй гэта пытаньне павінна стаць у ўмовах Савецкай Беларусі. Прычынай гэтаму зьяўляюцца тыя

цяжкія эканомічныя і палітычныя абставіны ў якіх жыла Беларусь да Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Працоўныя Беларусі адчувалі ня толькі эканомічны ўціск праз польскага пана, палітычны—праз царскую адміністрацыю, яны яшчэ адчувалі і вялікі нацыянальны ўціск.

Беларусь у старыя часы ўваходзіла ў мяжу аседласьці. Каапэрацыя амаль не разьвівалася. Грамадзкія формы працы і жыцьця былі невядомы дарэвалюцыйнай Беларусі. Яна ў старыя часы ня мела нават той грамадзкасьці, якую мелі іншыя часьціны былой Расіі. Усё гэта дало дужа дрэнныя і цяжкія вынікі. А калі дадаць да гэтага вынікі імпэрыялістычнай вайны, бежанства, польскія і нямецкія окупацыі—то стане зусім зразумелым, што толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя змагла выратаваць край, які фактычна цэлаю навалаю абставін быў ахвярован на вечную цемру, дзікасьць і выміраньне, па сёньнешні дзень гэтыя вынікі рабскага мінула балюча даюць сябе адчуваць у нашым гаспадарчым і культурным становішчы. Для прыкладу варта ўспомніць, што з 5 мільёнаў насельніцтва БССР, каля 3 мільёнаў няпісьменных. Гэтыя лічбы дужа добра тлумачаць наш культурны стан, нашы недахопы ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

## На што трэба зьвярнуць увагу

Зусім зразумела, што разгортваючы справу культурнай рэвалюцыі ў БССР першая ўвага павінна быць зьвернута на ліквідацыю няграматнасьці. Тав. Чарвякоў у артыкуле перад 10-гадавінай Кастрычніка кажа, **што ліквідацыя няграматнасьці „ёсьць задача ўсіх задач“.** Кожны актыўны працаўнік, асабліва ў вёсцы павінен помніць словы тав. Леніна: **„Няпісьменны чалавек стаіць па-за палітыкай, яго спачатку трэба навучыць азбуцы. Бяз гэтага ня можа быць палітыкі, бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, байкі, забабоны, але не палітыка“.** Далей увага ўсіх хто не застаўся ў баку ад нашага соцыялістычнага будаўніцтва, павінна быць зьвернута на цёмныя праявы нашага быту.

Барацьба з п'янствам і хуліганствам ня можа быць толькі справай, ну напрыклад, міліцыі. Гэта ёсьць справа ўсёй савецкай грамадзкасьці. Трэба навучыць людзей гігіенічнаму жыцьцю, разумнай траты часу, сіл, трэба на прыкладзе паказаць, што пры эканомічных дасягненьнях, якія мы ўжо маем, мы значна можам палепшыць і ўпрыгожыць наша жыцьцё.

Уменьне працаваць, уменьне выкарыстаць сілы і сродкі—вось лёзунгі сёньнешняга дню.

Увага да драбніц—ці гэта будзе фортачка ў вакне, якой у нас няма, асабліва ў вясковых хатах, ці змаганьне з прывычкай кідаць па ўсіх пакоях акуркі, пляваць, дзе толькі захацець, садзіцца на сталы ў установах—увага да гэтага ёсьць зараз тое, што неабходна нам, каб хутчэй пазбыцца расхлябанасьці, унутранай недысцыплінаванасьці — хутчэй зрабіцца культурнымі ў самых шырокіх масах савецкага грамадзянства.

## Усе на фронт культурнай рэволюцыі

Культурную рэволюцыю мы ніяк ня зможам ажыцьцявіць не падрыхтаваўшы і пасьпяхова не правеўшы змаганьня з цэлым шэрагам „драбніц“, якія ў выніку старога ладу пакінулі моцныя знакі на нашым жыцьці, працы, думаньні.

Пасьпяховае змаганьне з гэтымі „драбніцамі“, з спадчынай старога патрабуе ад нас усіх напружаньня сіл, ведаў, патрабуе выкарыстаньня ўсіх, пачынаючы ад няпісьменных і канчаючы найболей кваліфікаванымі і асьвечанымі. Гэта хутчэй наблізіць нас да перамогі на шляху культурнай рэволюцыі, а апошняя дасьць магчымасьць больш пасьпяхова ісьці па шляху соцыялістычнага будаўніцтва, соцыялістычнай перабудовы ўсёй чалавечай грамады.

Усе, хто ня хоча астацца ў баку ад жыцьця на фронт культуры!



# Трактар

**Максім Лужанін**

1

Далёка ад нашага краю,
дзе слоў нашых не разьбяруць,
яго на заводзе скавалі
і вось прывязьлі ў Беларусь.

Каб праца спарнейшаю стала,
каб радасьць гасьціла часьцей,
на сумных палетках упала
сталёвага росквіту цень.

Калісьці, гадзінамі працу,
пад песень журлівы прыпеў,
лічылі жняя і араты,
хвілінамі зьлічаць цяпер.

Бо колькі цярплівасьці рупчай
і працы з відна да відна—
узьняць зьдзірванелыя груды,
загон зьдзірванелы ўзьняць!

Далёка ад нашага краю,
дзе слоў нашых не разьбяруць,
Яго на заводзе скавалі
І вось прывязьлі ў Беларусь.

2

Ад відна да відна галасілі гудкі,
і ад сонца да зор стракаталі машыны,
і сачылі узьнятасьцю броваў вякі,
як праходзіць жыцьцё і напорна й няспынна.

І, здавалася, гэта імклівасьць і рух,
непраўдзівы зусім, для краіны— нязвычны,
бо ўзмахі натруджаных стомленых рук,
замянілі міганьнем агнёў электрычных.

Хай няпраўда, мана, але ўсё-ж ткі чаму
пажаўцелі вясной палыны на курганах?
Гэта значыць, што нельга спыніць і вярнуць,
зазьвінеўшае слова ў палёх— будаваньне.

ня спужае маўклівасьць таго, што было,
не заглушыць ніколі жалезныя рытмы,
дзе стаялі адвечныя вокны балот
нагінаецца нізка насьпелае жыта.

Ад відна да відна галасілі гудкі,
і ад сонца да зор стракаталі машыны,
і сачылі ўзьнятасьцю броваў вякі,
як праходзіць жыцьцё і напорна й няспынна.

# У клянкох

**Лукаш Калюга**

Моцна дрэмлюць пад таўстою коўдраю начы, як тычкі, на загонах мэндлікі, насунуўшы на вочы таўстыя шапкі. Ледзьві чутно ляпечуць лісткі клянкоў паабапал дарогі. Толькі адзіцока стукаюць з прыхваткамі ка лёсы, паволі падаючыся ўперад.

Узадзе ходырам ходзяць ува ўсе бакі п'яныя галовы Антося з Лявонам, адзначаючы колькі па дарозе стрэлі калдабаноў. А ў передку пластам ляжыць Хвядос, сакратар мясцовай ячэйкі комсамолу.

— Лявон!.. Швагер!.. — камячыў Антось ніпаслухмяны язык.

Вот уляпіў, як сьвіньня ў гразь! Швагер, швагер! Калі вечар з сястрою праседзяў на прызьбе, дык ужо й швагер!—Злаваў, у думках той.

— Адчапіся назола! — ня вытрымаў урэшце і, шукаючы на кім-бы злосьць спагнаць, заўважыў, што кабыла ледзьве ногі перастаўляе.— Ах, каб цябе ваўкі, воўчае ты мяса!—закрычаў ён і, стаўшы ў перадку на каленкі, уварыў з-за вуха пугі.

Рванула з месца кабыла і кінулася на ўзавады ў ваглоблях. Прамчала з гоні каламашку, як віхор, патаўкла яздуном бакі і зноў пашла ступою. Вот і граза памагла.

— Чаму ты 'шчэ ні ўкусіў,—упікнуў яго Хвядос, як моцны куксак у бок перарваў, стройную, стройную плынь думак.

Ён успамінаў і клеіў у адзін малюнак бачанае і перажытае ў гэты дзень.

Раненька ўстаў і пашоў у мястэчка, за 20 вёрст, на пленум райкому. Амаль да вечара бавіўся там. Даклады, спрэчкі, пытаньні сыпаліся як град. І Хвядос ні быў у хвасьце. Мокры, як пацук, выкаціўся з пасяджэньня. Пашоў на месца, каб стрэць каго ды на хурманцы даехаць да хаты.

На месцы шум глушыў. Грукалі колы аб брук у ехаўшых хурманак. Гандляры мацалі па дзесяць раз адны і тыя-ж рэчы на вазох. Па дзесяць разоў падыходзілі й адыходзіліся ад тых-жа ва-

3

Штосьці коні вушамі трывогу
прадуць,
зьнеспакойнелі сьмірныя коні...
ці пачулі здалёку якую бяду,
мо' якая напасьць надыходзіць
сягоньня?

Паглядаюць на цень паласатай
вярсты,
на істужку дарогі, што губіцца
ў нівах,
не даюцца, хоць плач, надзяваць
хамуты,
ды бягуць у прастор, разьвяваючы
грывай.

Там далёка, клубамі ўздымаецца пыл
засьцілае шляхоў крыжаваньне
і ростань,
там, павольнымі крокамі цяжкай
ступы,
набліжаецца некая дзіўная постаць.

Вось што коняй прымусіла дзіка
гайсаць,
вось якая іх сіла нястрымана носіць!
Ім балюча, што косы зялёных прысад,
прывітаюць жалезнае радасьці госьця.

І стаяць і вушамі трывогу прадуць,
зьнепакойнелі сьмірныя коні...
быццам чуюць здалёку якую бяду,
бы' якая навала находзіць сягоньня.

4

Шэпчацца ціхае жыта,
ў полі вятры прыляглі.
Колькі турбот непазбытых
вечна расьце на зямлі!

Колькі іх зжата і збыта,
вырасьце колькі яшчэ!
Часам здаецца надпіта
радасьць дзявочых вачэй.

Ў сьветлыя ясныя далі,
трэ' не зважаючы йсьці.
Сёньня праз вёску праслалі
новай ясноты шляхі.

Трэба лясныя паляны
новай вясной акрапіць...
Ў полі так хутка і слаўна,
долу кладуцца снапы.

Шэпчацца ціхае жыта,
ў полі вятры прыляглі.
Трактара новыя рытмы,
радасьць палём прынясьлі!



зоў, набаўляючы кожан раз па дзясяццы. Тарокаліся, бажыліся, кляліся. Недзе воддалека на чым сьвет стаіць крычала разьюшаная гандлярка на п'яных, што ўбіўшыся ў чараду гаршкоў пашлі ў прысядкі. Па прагалінцы, сярод вазоў, гойсаў цыган на сваім склубляным кані, заахвочваючы людзей, тых, якім шкляны бог засланіў вочы, памяняцца з ім. Недалёка ў гурце мужчын моцна перабівалі рукі, робячы барыш. А каля іх, як сабакі каля разьніцы, круціліся перакупшчыкі, чакаючы каб у іх расхінёныя кішэні ўляцела якая дзесятка рублёў за фактарства.

Там напаткаў Хвядоса Лявон, сусед. З рота чуўся дух гарэлкі. Не спадзяваўся Хвядос стрэць яго ў такім выглядзе.

— А братка ты мой! Вот добра! Хадзем!—супэнду лаганіў той і, калі Хвядос стаў адгаварвацца, вачавідкі шукаючы прастарнейшага месца, каб кінуцца ў другі бок ад тухлай бочкі—Лявона, ён з дапамогаю 'шчэ двух падпіўшых хапіўшы пад пахі Хвядоса, патарабаніў на ганак крамы з шыльдаю „Піва і моцныя выпіўкі. Турзаўся,вырываўся Хвядос, але ня даў рады дужым грукачом

А там і пашло. Чарка за чаркаю жвава закруціліся кругом п'яной капэльлі. Хвядоса прымушалі куляць кілішкі горасьці.

— Ты тут ні паказвай свайго комсамольскага форсу. Пі за наша здароўе!—З мінаю шчырай прыхільнасьці пляло ракашэды чырвонае ад гарэлкі рыла з пасінелым носам.

Толькі помніцца, як праз сон бачыў, што разы два езьдзіў у рыгу ('шчэ й цяпер у роце нейкая агідная саладзіня) і як гаспадар вышаўшы з-за буфэту абзываў сьвіньнямі і хацеў гнаць вон, але важкі кулак Лявона, што каменем стопудовым спусьціўся на кволы столік і з грукам адкалоўшы ў ім рог, разьвеяў усякія надзеі на тое, каб вытурыць іх з крамы. Але крамнік дамогся свайго, спыніўшы ім продаж гарэлкі і застрашыўшы міліцыяй.

Як вышаў адтуль, як сеў на воз, ці рана выехалі з мястэчка, усё гэта было зацягнута густым туманам. Толькі па дарозе трохі растрос густую мяцеліцу, што сьвістала й круцілася ў яго галаве. Тады злосьць і адчуваньне адсутнасьці сілы





**Малюнкі Флёрыяна Акуновіча—хлапца-самавучкі з вёскі Боркі, Узьдзенск. р. 1. Адпачынак у дарозе. 2. Лазьня ў полі.**

## Ночка зімовая

**Алесь Сечка**

Ночка марозная,
Ночка празрыстая;
Ў полі пасланы
Пасьцелі срабрыстыя.
Месяц сьмяецца
Ў прасторы ўглядаецца,
Ціхія вёскі
Ў сон акунаюцца
Голыя дрэвы
Стаяць ня хістаюцца,

Зоркі ў небе
Агнямі мігаюцца.
Вёска заціхла—
Хаты заспаныя.
Сьвецяцца ў вокнах
Агеньчыкі цьмяныя.

Вёска Таненычы,
Случчына.

саўладаць з сабою, каб даць ходу з іх агіднай капэльлі, мучылі яго.

Пад'ехалі да хутару заможніка Цюхцяя, што жыў па дарозе, у Клянкох, як кажуць тутэйшыя, сярод чыстага поля.

— Зьлезь, Антось, адчыні вороты,—сказаў Лявон павярнуўшы каня да варот.

— К Цюхцяю заедзем,—сам сабе пад нос прамарматаў Антось і заскрыгаў варотамі.

Забрахаў сабака. Нехта ў хаце рыпнуў дзьвярыма і зараз на ганак высунулася босая ў доўгім кажуху і бяз шапкі постаць старога.

— Хто-ж гэта гэтак позна? прашапяляў ён.

— Гэта мы, дзядзька, да вас прыехалі,—адказаў Антось, памагаючы Лявону расупоніць каня.

— Здэцца Антось?

— Ён і ёсьць,

Заходзьце-ж госьцікі ў хату, а я тым часам запалю агонь,—чуваць было з-за дзьвярэй сянец. Стары пасунуўся ў хату.

Адпрэглі коні. Падкінулі канюшыны ў перадок.

— Хвядос! Ты заснуў, ці якое ліха?—тузаў яго за ногі Лявон:—Ідзем да хаты. Пахмелімся.

Не сваімі нагамі ішоў у лукаткі Хвядос.

Ледзьве абмацаў клямку ў хаце. Загнаў іх чорт сюды шчэ, карчоў сьлінькатых, думаў ён. А ўяўленьне хуткага паўтарэньня сцэн местачковай карчмы ванітавала яго і давалася, што ня вытрымае, пачне рыгаць на малёваную падлогу заможніцкае хаты.

Увашлі ў хату.

Ад кута ў два бакі цягнуліся шэрагі празрыстых абразікаў. Пад яркім сьветам вялізарнай лямпы з фарфуровым магазынам, здавалася, што сьвятыя скрыва і варожа паглядалі з-пад ілба на неспадзяванага госьця гэтай хаты Хвядоса.

У куце стаяў на аднэй точанай ножцы круглы дубовы стол, а наўкола яго чарада крэслаў і табарэцікаў.

Гаспадар сядзеў на табарэціку ў канцы стала і таўстымі пальцамі выстукваў такт нейкіх скокаў. Тонецькія ножкі табарэціка ледзьве трымалі яго грузную высокую постаць. З пад ілба, як мышы з норак, глядзела пара шэрых вачэй і тонкімі нізапаметнымі голкамі калолі таго, на каго ўглядаліся. Вусы апусьціўшы густое шчаціньне засланялі вусны і ніколі з-за іх частаколам ні

# МУЗЫКА ЛЕНІНУ

Міхась Чаромха

Душой далёкаму, а блізкаму па сэрцу
Таму хто ўзьняў фундаманты вякоў,
Хто ўзят ад нас няшчаднай лапай сьмерці
Хацелася-б сыграць мне музыкаю з слоў.

Ня знаю...

Мо' зіма пад звон вятроў халодных,
Пад рогат выцьвіўшых, бясколерных завей
Захоча ўкрасьці тоны нашых песень.
Захоча дар украсьці ад людзей!..

I

Шпегам таемным сашчурыла бровы
Чорная сьмерць з-за жыцьцёвых кустоў...
З веразгам уеліся палкія словы
Ў шпальты газэтных лістоў.

Праўдай няжданаю сэрца паранена,
Чорныя літары ў мільёнах вачэй...
Многа чужынцамі скарбаў украдзена,
Нэрваў гарачых з дымяшчай крывёй.

Весткі, бы сарны праз чорныя стромы
З скочатам скачуць, стучаць у акно.
— Скончыла сэрца народу струменіць,
Нэрвы заснулі няўзбуджаным сном.

Ўздрогнулі струны няскончанай песьняй,
... Жылы застылі... спынілася кроў...
Многа ў словах захована праўды,
Многа ў песьнях нявыцьвіўшых слоў.

З сумам схілялі сьцягі над магілай
Сталін, Бухарын і сотні другіх.

— Лепшым адказам... нязрушымай сілай —
Масы адзінай—адзіны ўздрыг!

Стальлю халоднай узьнімаліся словы...
— Хочуць падмыць берагоў нашых сталь,
Толькі ня знойдзецца гэтакай сілы,
Толькі ня знойдзецца гэтакіх хваль.

Плакалі белыя песьні зімовыя
Сквілам сумётаў, сьняговых завей.
Многа ёсьць песень—мяцеліц нэрвовых,
Многа праведзена рэй.

II

Песьням сілы з вятрамі ня мераць,
Струнам сэрца ня вечна зьвінець;
Ня ўсе людзі ў Сучаснае вераць,
Ня ўсе могуць ў змаганьні гарэць.

Грымяць струны жыцьцёвае ліры...
Нашых песень чутны галасы!
Толькі згінуўшых у пеністым віры
Не паднімуць сталецьцяў часы.

Знаю я...

але моцная вера,
Што зямля ня глухая турма,
Што адгукаецца ў музыцы Ленін...
... „Яго думкі раскажа зіма!"

* * *

Душой далёкаму, а блізкаму па сэрцу,
Таму, хто ўзьняў фундаманты вякоў
Хто ўзят ад нас халоднай лапай сьмерці
Хацелася-б сыграць мне музыкаю з слоў!

---

ўгледзіш, што яны паказваюць: ці хітрую ўсьмешку, ці кісла зьвісаюць на бараду. Кончык носа ганарыста крукам тырчаў у гору, як-бы папярэджваючы, што ўлегцы ня возьмеш яго гаспадара. Толькі ў выпадку пільнай патрэбы глядзеў ён у вочы чалавеку; больш усяго яго погляд бегаў збоку, як ганчак шукаючы зайцаў сьлед.

З варожасьцю і падазронасьцю калоў сваім поглядам Хвядоса стары Цюхцяй. Чаго яго загнала сюды?—меркаваў ён. Ён толькі летась з ім пазнаёміўся, як той прыходзіў у яго хату рабіць працоўную ўмову яму з парабачкам--пастушком і дзеўкаю -наймічкаю. Як ні гадзіў, ні наравіў (даў папалуднаваць, хацеў самагонкаю пачаставаць, ды пабаяўся), а той сваё права правіць. На два рублі сілком павялічыў плату пастушку і на дзесяць наймічцы. А цяпер яго зноў нячыстая прыгнала ў гэту хату. І чаго ён тут?

Гутарка ня клеілася ў іх. Адны другіх як-бы ашчаджаліся.

З кухні імчаліся гукі ад шыпучага самавару. Моцна пазяхала і пацягавалася наймічка, якую а поўначы ўспароў з лавы гаспадар пячы скаромнае і гатаваць гарбату. Шчэ ні раскурстаўшыся добра, правіла яна скавараду, падкідала дрэўцы пад трыножку на прыпяку і мармытала праклёны на гаспадара, гасьцей і гаспадыні ляр-вы, што ад відна да відна тухне ў сьне.

Ня сьцерпеў Цюхцяй. Паклікаў да сабе Антося.

— Скажы ты мне, чаго гэтая зараза з вамі прывалакася?—і выразна кіўнуў у бок Хвядоса.

— Будзь смел дзядзька! Калі хто са мною, то ён наш... свой, як той кажа. Гэта ўсё дзеля Лявона.

— Хіба памякчэў. Ато летась, ох, быў вужака.

— Ня бойцеся. Калі я з кім...—Хацеў нешта сказаць у зацьвярджэньне сваёй вартасьці Антось, але Цюхцяй махам рукі заўняў яго. Усё было зразумела бяз слоў.

Зьявіўся самавар. А сьледам за ім і кварта самагонкі з закускаю.

Прабаваў Хвядос адкаснуцца ад яе, але на яго зноў націснулі ўсім фронтам. Ня ўсьпела прасьвятлець галава ад местачковага чаду, як тут пахмельле падасьпела. Ходарам захадзілі, закруціліся, сталі мятушыцца і бутэлька і людзі, і ўсё навакольнае

# Песьня

## (З народнага)

У палёх за вёскай,
Вёскай дарагой
Там мы разьвіталіся,
Міленькі, з табой.
У апошні вечар
Ты сказаў тагды:
„Кахаць шчыра буду.
Шчыра заўсягды“.
Ты абняў, да сэрца
Моцна прытуліў.
Гойдалася збожжа
Залацістых ніў.
На траве блішчэла
Кроплямі раса:
„Ня сумуй, Гануля,
Ты мая краса.

Паслужу, вярнуся“...
То было як сон.
Любы ня прыходзіць
І ці прыдзе ён.
Пашоў годзік трэці,
А яго няма.
Думак за час гэты—
Было вельмі шмат.
Ой ішла, Гануля,
Паміж сьпелых ніў.
Шчэбет птушак ліўся—
Звонкі пераліў.
Вечар раставаньня
Успомніўся—усплыў
Пацалункам любы
Вусны апаліў.

У жытнёвым полі,
Полі за сялом,
Янкі ня сустрэла
Янкі ня было...
З воласьці Данілу
Вестку падалі:
„Згінуў Янка ў бойцы
На чужой зямлі“...
Сумавала Ганна,
Плакала наўзрыд—
„Ды за што-ж загінуў
Янка без пары“...
Спачувалі людзі
Ганьнінай бядзе:
„Хто-ж цяпер ёй мілы,
Мілы хто і дзе?“.

*Ал. Пальчэўскі.*

# Сьпевы васеньнія

### Уладзімер Латушка

Так восень прышла й засьпявала нудліва
Спаткальныя песьні зіме;
У мжыстыя воблакі сонца закрыла.
Загон збажыны адзьвінеў.

Вецер гульлівы гайдае пры гаю
Шаўковыя ўборы—лісты.
Стан голы бяроз і кляноў абнімае,
І хіліць на ўзьмежак пусты.

А цёмная ноч па завокнамі звоніць,
Дажджынкі па шыбах бражджаць
І ўспомніцца шорах напутаных коняй,
Начлег ля ракі, сенажаць.

Хвалююцца думкі ў вясёлым настрою,
Ды толькі інакш—не ўвясну,
Бо бачыш, як хмары сыходзяцца ўгоры.
Ды скора зіму прынясуць.

---

Тады ні прыслухаўся. Нічога ня помніў.

Прасьвятлеў Цюхцяй. Расхінаецца шчацiньне на шырокай губе, у ўхмылку здаволеньня складаецца. Макавыя зярняткі жвава бегаюць пад навіслымі бровамі. Шырэй расхінаюцца пачырванеўшыя шчокі. Маргае Антосю і ківае мезяным пальцам у бок Хвядоса. Патаемная злосьць блішчыць у яго абліччу.

Вот хлопча! Нашто табе шыцца ў сабачую скуру. Камсамольства табе патрэбна?!—кіслаю мінаю, як мыла зьеўшы, глянуў Цюхцяй на Хвядоса і ня сунімаючыся бубніў далей!—Патрэбна табе, як кату валачашчаму, хадзіць ды выслухоўваць, дзе служобныя ёсьць. Халеры нейкія, саюзы пісаць. Піць—уздумалі — ня можа. Плюнь лепш на гэта і нагою затры. Сам чалавекам будзеш і людзі ня будуць клясьці. Праўда мая?

Хвядос толькі неазначальна калыхаў галавою. Яму ня было патрэбы ведаць, дзе праўда, а дзе фальш.

— Васпан трохі няпраўду сказалі. А каб куды ўбіцца, то тады камсамол не патрэбен? Бывае патрэбен,—дадзіў Цюхцяя да свайго пераканаьня Лявон, а тады зьвярнуўся і да Хвядоса. З сяброўскаю прыхільнасьцю паклаў яму руку на плячо.—Я цябе за добрага мальца лічу, Хвядос. Хацеў даўно ў цябе прасіць... Ведаеш браце... дай мне дзе мейсца, ты-ж такі сакратар...

Што далей было, чым тое кончылася няпомніў Хвядос.

Толькі на заўтрае дасьветкам ачухаўся ён у таку на сьвежым сене. Побач з ім храпуць Антось з Лявонам. Здагадаўся ён, якім спосабам папаў сюды. Учарашні дзень устаў перад ім грозным пудзілам.

Кволы прамень маладога сонца праз вузенькую шчыліну ў версе над дзьвярмі забег у ток і бліскучым золатам рассыпаўся па сьцяне. Заўважыўшы гэта, Хвядос кулём скаціўся з стараны. Памаленьку адчыніў дзьверы і подбегам пусьціўся з двара хутаранца, што так цісную ў яго сумленьне сваімі вострымі зубамі высокіх шчыкет.

30 студзеня 1927 г.
Вес. Скварцы, на Меншчыне.

  



Электрыфікавана явёска

# Хлопчык Вань

*(Урывак з аповесьці „Дзесяць“) *)*

Пасьля сьляпухі-мяцеліцы гурбы абляпілі.

Белыя, бліскучыя гурбы, нібы горы пшанічнай мукі, душылі платы і мігцеліся пад сонцам.

Лясочкі і гайкі абапал дарогі былі засланы бялёным кужалем і выглядалі дзівоснымі істотамі з дзіцячай казкі, з дрымотнага царства марозу.

Над дрэвамі крычалі вароны. Вострымі крыльлямі яны рэзалі празрыстае палатно неба, купаліся ў паветры. Часам апусьцяцца імпэтна на пушыстую вяршыну, пасыпяць уніз белую сьнежную крупу і зноў уздымяцца з краканьнем у сонечны мароз. Чорныя на белым фоне зьнізу і зьверху яны навявалі вакол нейкую строгую ўрачыстасьць.

Спалі гурбы.

Калі-ні-калі—як прабудзіцца ў нетрах бела-пуховага лесу марозьліва пякучы вецер, як прачнецца на вялізных абсьнежаных стагох на мёртвым балоце, як пачне вандраваць у дзікіх скоках ад поля да поля, як пусьціцца шукаць торанных сьцяжын—гурбы сьнежныя зноў ажывалі. Яны пачыналі сыпаць ветру пыл у вочы. Ён круціўся тады асьлеплены на адным месцы, выў, скаголіў між белымі посьцілкамі, блытаўся ў іх і ня ведаў, што рабіць і дзе дзецца.

Вунь соўваецца па дарозе нейкая нутлая кропка, рухаецца жывая істота ў шэрых анучах. Нехта карабкаецца па гурбах наперад. А завея сотнямі пытляў гоніць яго ў другі бок.

Гэта ідзе хлопчык.

То бок накіруе, нібы руль, насустрач ветру, то сьпіною да яго адвернецца. А ўсё наперад ідзе. Часам твар пакажа; вочы, нібы два шустрыя зайчыкі, прамільнуць па пуховых пярынах сьнегу. Тады вецер лоўчыцца крутнуць яго з ног да галавы, стараецца папасьці яму нявідочнай пугай у вочы, у рот.

Чырвоны твар хлопчыка аж гарыць. Во, здаецца, кроў брызьне... Ён ня ведае дзе дзець скачанелыя рукі. Часта хукае на іх, трэ далонь аб далонь, ня спыняючы пры гэтым заваёўваць зьбянтэжную даль.

Увесь запас цяпла ў яго ў роце. Як дзьмухне некалькі разоў на рукі, дык адразу аджываюць пальцы, цяплеюць далоні, і ў грудзёх лягчэй робіцца. Рот у яго—маленькая печачка, дзе можна рукі пагрэць... Каб яшчэ ногі можна было-б пагрэць у гэтай печачцы, тады хлопчык быў-бы як у хаце... Ногі качарэжкамі парабіліся. Адубелі.

Хлопчык ідзе кудысьці. Сам ня ведае куды. Ён уцякае ад нейкага страшэннага ворага.

Здаецца хлопчыку, што сьніць жудасны сон. Зусім нядаўна быў дома. Але не даўно, даўно—ня то месяц, ня то год, ня то сто гадоў... Думкі ў яго блытаюцца. Успаміны ажываюць яркімі, бліскучымі малюнкамі. Ён ня ведае, дзе іх пачатак, дзе канец.

Ён памятае гарачае, як прысак, лета. Сонца паліла нібы, вогнішча. Сухавеі насіліся па аграмадных абшарах Паволжжа. Пякучы дробны пясок, нібы воблака іскраў, дыміўся па палёх. Сунь у яго палец— спражэцца. Пажаўцела поле. Жыта

*) Аповесьць „Дзесяць“ надрукавана у 5-м нумары часопісу „Узвышша“.



У дзіцячым прытулку

ссохлася на пні. Саламяныя сьцяблы акасьцянелі. Пыл лез у вушы, хрусьцеў між зубамі, і зажмурыўшыся трэба было хадзіць.

А то сьціхнуць сухавеі, толькі пячэ-пячэ сьпякота... Лужыны і дробныя рачулкі даўно сонца высмактала. Патрэскалася зямля, як разьбітая цэгліна. Птушкі раней восені паляцелі адтуль, нібы выбіраліся з ачумленай мёртвай зямлі. А тутэйшыя птушкі жаласьліва пішчэлі, нечага непакоіліся.

Хлопчыка тады болей усяго палохалі пахмурнелыя строгія вочы бацькі. Яны застывалі, як лёд, пад сьціснутымі палумесяцамі брывёў і ня ўсьміхаліся ранейшай бацькаўскай усьмешкай. Па гэтых нязвычайных вачох хлопчык даведваўся аб вялікай небясьпецы, якая надыходзіць сюды.

— Гэта горш усялякіх войнаў, горш пажараў,—не сваім голасам гаварыў бацька.

Маці плакала і часта перад бажніцай на каленях стаяла...

На іхнюю ваколіцу наступаў голад.

Што гэта за ягомасьць такі, які гэта новы белагвардзейскі генэрал—хлопчык ня ведаў. Так і не пабачыў яго, голаду, да апошняга дня...

Хоць усе ў іхнім сяле гаварылі:

— Голад ідзе! Вось ён! Ужо прышоў!

Як хлопчык ні прыслухоўваўся, але і крокаў гэтага незнаёмага дзядзькі не пачуў. Адно толькі хлопчык заўважыў: такія вочы, як у яго бацькі—і ў іхняга коніка буланага, у кароўкі рабой і нават у яго найлепшага сябра—у сабачкі Ваўчка...

Нібы крэўныя яны ўсе. Нібы адна маці іх радзіла. І ва ўсіх вочы сумныя з гарачым блескам. Іхнія вочы падобны да блеску сонца пад сухавеем... Сьпякотнае сонца пакінула ў зрэнках людзей і жывёлін свой дзікі адбітак.

Ува ўсіх адзін бацька—голад.

Ваўчок часта лізаў рукі і твар у хлопчыка і выў-выў, як ніколі раней, жаласьліва скавытаў. Валасы дуба падымаліся пад шапкай у хлопчыка. А ў яго шчуплых грудзёх нешта ныла, смактала. Толькі хлопчык прыслухоўвацца не хацеў да таго, што ў яго ўнутры робіцца...

Коніка і кароўку даўно зьелі.

Хлопчык памятае, што пры ядзе бацькі між сабою ні слова не гаварылі. Вось як-бы анямелі... Толькі дзьвякалі і цямкалі губамі і цэлымі кавалкамі глыталі. Таксама бацькі не глядзелі пры ядзе адзін на аднаго. Вось як-бы нечага сароміліся, або абакралі адзін аднаго.

Пасьля гэтага піру маці капала на яду нейкія карэньні, таўкла, малола ў жорнах, парыла, варыла—уся сям'я глытала.

Хлопчык даўным-даўно забыўся, што ёсьць дзесьці на сьвеце хлеб і бульба.

Можа ніколі і ня было гэтага дабра? Можа аб гэтым толькі ў байках баялі?

Што дня ў іхняй вёсцы памірала некалькі чалавек.

Выкапалі на могілках вялізную яму.

Мабыць, дзядзі баяліся ў адзіночку спаць у сухотнай зямлі.

Суседзі хадзілі панурыя, як цені. Па нябожчыках бадай ня плакалі, ня прычытывалі. У вачох жывых зьяў галодны воўчы бляск...

Наслухаўся хлопчык розных страшных гутарак: нябошчыкаў ядуць, жывых рэжуць, малых дзяцей ловяць.

Ня стала Ваўчка. Ня чуваць выцьця сабакі.

Пуста зрабілася на сэрцы хлопчыка бяз гэтага выцьця. Пры Ваўчуку так моцна і голаду не адчуваў. Ваўчок заўсёды цёрся каля яго ног, пішчэў як мыш. Тады хлопчык пра свой уласны голад забываў: жаласьлівасьць да сабачкі запаўняла ўсе яго пачуцьці.

Ваўчок быў яго гадунцом.

Вясной хлопчык бачыў, як іхні сусед Мітры панёс у кошыку на поле, дзе гліну капалі, некалькі шчынят тапіць. Ледзь выпрасіў у дзядзі адно шчынятка, чорненькае, бліскучае з белымі акулярамі—кружкамі вакол вачэй.

Хлопчык краў малако з матчыных гладышоў і выгадваў сабачку—назваў Ваўчком. Колькі лупцоўкі меў за яго ад бацькі—усё выцярпеў.

А цяпер во—прапаў Ваўчок...

Хлопчык па суседзях Ваўчка шукаў. Плакаў за ўвесь час страшнага голаду.

— Дзе Ваўчок?

— Ды ты-ж яго, сынок Вань, учора еў...—казала маці глухім голасам,—што-ж было рабіць? Дзіцё маё горкае...

— Ваўчок! Ваўчок!—загаласіў Вань, кінуўся вобземлю. Рваў на сабе валасы. Качаўся па зямлі і енчыў.

— Дзе-ж гэты голад? Я зубы яму выкалачу!—злаваўся Вань.

Сашчэміў Вань худзенькія кулачкі, на якіх сухімі сучкамі тырчэлі косткі, выставіў іх наперад, як нешта вельмі страшнае, і пабег шукаць, дзе дзядзя голад.

Вань хацеў папомсьціцца за Ваўчка...

Аднаго разу бацька нейк дзіўна зірнуў на Ваню. Кіўнуў да яго сухім пажоўклым пальцам, бліснуў вачыма і добрым, салодкім голасам казаў:

— Ва-а-ань...

У бацькі твар зрабіўся вельмі дробным, высах і пажаўцеў. Пальцы былі тонкія і вострыя—адны косьці. Толькі шышачкі мазалёў яшчэ тырчалі на гэтых костках. Ня зыходзілі. Выглядалі расьціснутымі чорнымі ягадамі.

Ад такой зьмены ў бацькі хлопчыку вельмі сьмешна стала.

Вань ціха хіхікнуў.

У адказ на яго хіханьне засьмяяўся бацька. Сьмяяўся доўга—усё галасьней і галасьней. Ня мог спыніць свой рогат. Ён трымаўся за бакі. Потныя валасы прыліплі да яго ілба. Ён вышчэрыў на сына вострыя жоўтыя зубы і рагатаў-рагатаў...

Вань глядзеў на бацьку спалоханы. Яго абхапіў такі страх, ажна ня ведаў, дзе дзецца.

Вань уцёк.

Бягом пусьціўся праз вёску, выскачыў на чыстае поле і нічога ня бачыў перад сабою. Яму здавалася, што за яго плячыма нехта рагоча, рагоча рагоча... У вушох зьвінела „бум-бум-бум“, нібы пажарны звон.

Вань яшчэ шпарчэй пабег. Хтосьці на крыльлях яго нёс. Ён быў такі лёганькі, ажна здавалася яму, што вецер яго нясе, як сухі ліст.

Якім чынам апынуўся на возе ў нейкіх незнаёмых дзядзяў—Вань ня памятуе.

Дзядзі накармілі яго гарачай заціркай з меднага кацялка.

Пасьля ён папаў на цягнік. Паехаў.

Тарарахтаў цягнік па незнаёмым белым стэпу; насіўся, як шалёны, па роўных бліскучых рэйках усё далей і далей і далей...

А рэйкам канца ня было. Яны прарэзвалі рэчкі, лясы, даліны, узгоркі і былі выцягнутыя па напорыстых грудзёх зямлі як срыбныя тысячавёрстыя палазы.

І дзівіўся Вань на дым, які побач з цягнікам віўся над рэйкамі. Гэты дым, пранізаны іскрамі, стаяў воблакам з боку вагонаў над абшарам, дрыжэў, перакідваўся, і канца яму ня было. У дзень Вань у гэтым воблаку з дыму шмат чаго бачыў. То цэлая вёска іхняя ў ім зыбалася, то родная хата кульгалася на бакі, то хмызьнякі нейкіяківалі да яго з дыму. Невядомыя страшныя зьвяры грызьліся там між сабою.

А паравоз тухкаўся, торгаў вагоны, іржаў жарабцом, выў, рагатаў, ажна не па сабе Ваню рабілася. А вагоны выцягваліся ў доўгае сяло. Хата на хату лезла. Сяло імчалася суровае, звар'яцелае.

Пад аднамерны рокат жалезных калёс Вань марматаў родныя песьні сваёй ваколіцы. Засыпаў, прабуджаўся з крыкам. Яму сьніўся тады голад,Ваўчок, буланы конік і кароўка-рабулька.

Усе яны выстаўлялі на яго бліскучыя голодныя вочы.

Вань ехаў доўгі час. Калі-ні-калі нават хлеба каштаваў.

Урэшце Вань папаў у нейкі горад. Жыў у бараках. Вакол яго на нарах людзі ляжалі. Яны паміралі, як мухі ў восені.

Вань ізноў уцёк. Хадзіў па незнаёмых вёсках. Мужыкі ня былі такія хмурыя, як у яго родным сяле. Кармілі яго гарачай стравай, бульбаю. Хлеб на дарогу давалі. Чужыя цёці гладзілі яго па галоўцы і гаварылі:

— А міленькі, а няшчасьненькі хлопчык.

Жаласьлівасьць чужых цётак Ваню была не да смаку. Гэта будзіла ў яго сэрцы ўспаміны аб яго родных. Яму плакаць хацелася. Ледзь стрымліваўся.

Вань хадзіў ад вёскі да вёскі.

Усе дзівіліся на хлопца, які трохі па іначшаму гаворыць. За гэта яшчэ болей шкадавалі:

— Чужэнькі... Гаротненькі...

Мяцеліцы ня былі яму ўжо так страшны. Вань не галадаў.

* * *

Вань пабачыў над сьнегамі ў небе нейкую трубу. Нацянькі туды пабрыў.

Гэта быў маёнтак Глухі Бор—цяперашняя Камуна, дзе працавала на зямлі шмат сялян.

Даўно ўжо ў Камуне Міхалка кавалём працуе. Вань здалёку пачуў звон малатка ў кузьні. Пашоў туды грэцца.

Рукі ў яго былі чырвоныя, як накалёнае жалеза. Вань іх трымаў над гарачымі вуглямі, круціў туды і сюды, нібы сьпякчы, як бульбіну, хацеў.

— Як цябе завуць?—запытаўся ў яго Міхалка.

— Вань.

— Вань? Ты, мабыць, ня тутэйшы.

— Не здешні...

Міхалка аглядаў яго з ног да галавы.

— Што ты тут робіш?

— От голада вбёг...

— Ага...—зразумеў Міхалка і глыбока зірнуў хлопчыку ў сінія вочы.

— Дык ведаеш, Вань, кепска шляцца так па вёсках, як жабрак.

Міхалка зрабіў строгі твар.

Ваню прыемна стала ад строгага выгляду Міхалкі. Людзкую жаласьлівасьць Вань ня любіў.

— Ты Вань астанешся тут у мяне. Да вясны будзеш вучыцца ў школе, а з вясны пастухом цябе зробім у Камуне. А пасьля зноў вучыцца аддадзім. Як навучымся—увесь сьвет заваюем! Дык па руках?

Міхалка падставіў Ваню правую аграмадную руку. Вань па-мужчынску ляснуў па ёй маленькай рукою, адагрэтай у кузьні.

Абодвы засьмяяліся.

— Харашо?—запытаўся Міхалка ў Вані, гледзячы на хлопчыка зьверху ўніз, стараючыся ўгадзіць яму расійскім словам.

— Добра! адказаў Вань, зірнуўшы на агромнага дзядзю зьнізу ўверх маючы на ўвазе зрабіць прыемнасьць беларускім словам.

Абодвы былі здаволены.

Міхалка павёў хлопчыка ў хату.

## ШАЛЯСЬЦЯЦЬ ХМЫЗЬНЯКІ

**Алесь Жаўрык**

Шалясьцяць хмызьнякі пры дарозе,
Спавіліся ў шэрань бары,
Вецер жменямі пылу марознага
Стрэхі сонныя хат серабрыць.

Ад Дняпра пагоня
Закавана ў сіні асфальт...
Прывітаньне маё табе сёньня
У беласьнежным адзеньні зіма.

Сваю фінскую шапку здымаю,
Табе ў пояс паклон я кладу—
Хай завеі вясельле спраўляюць,
Хай вятры не заморацца дзьмуць!

Люблю дрэвы спавітыя у іней,
Як вугальле пякучы мароз;
Калі мускулы стальлю пружыняць,
Калі шчокі палаюць зарой.

Калі хочацца з ветрам крылатым
Мчацца ўгрунь, у крыштальны прасьцяг
І падслухаць як сосны кашлатыя
Задрамаўшы—гальлём шалясьцяць.

Эх, як рад, што такі малады я,
Што на твары ўсьмешка гарыць,
Што ні сівер, ні ветры ліхія
Не астудзяць юнай крыві.

# Пра беларускі тэатр

Тодар Глыбоцкі

У гісторыі разьвіцьця любой нацыянальнай культуры тэатральнае мастацтва адыгрывала і адыгрывае амаль што выключную ролю паказчыка агульнага ўзроўню гэтай культуры. Мабыць некалі старагрэцкі тэатр адыграў не малую ролю ў справе ўстанаўленьня нацыянальнай сьвядомасьці грэкаў, адначасна адбіваючы ў сваіх масках высокі ўзровень тагачаснай культуры. Бяздушныя містэрыі сярэднявечча і нікчэмныя іх паследышы— „комедыйныя действа" баярскай Масквы— гэта таксама адбітак заняпаду чалавечага вольнага духу ў гэтыя фанатычныя эпохі, калі ўсякая праява чалавечага духу нікла і замірала пад знакам папоўскага крыжа. Узорчаты тэатр апошніх дзён французскага фэўдалізму, мяшчанская драма і, нарэшце рэалістычны тэатр—ці-ж ня можна па іх прасачыць і разьвіцьцё вытворчай тэхнікі, і літаратурнага мастацтва і многіх іншых галін чалавечае дзейнасьці, што ствараюць воблік эпохі.

Беларускаму тэатру, як і ўсякаму іншаму, вельмі цяжка прасачыць сваё заснаваньне. Мабыць, трэба шукаць яму пачатку ў старажытных цяністых Пярунавых запаведніках, у вогнішчах і скоках купальскіх і г. д. Як слабыя памяткі нашага старажытнага народнага тэатру да нас дашлі некаторыя п'есы, сярод якіх да апошняга часу ў глухіх кутках Беларусі карыстаецца вялікім посьпехам „Цар Максіміліян".

Гадоў 20 таму назад пачалі засноўвацца аматарскія гурткі, якія мала павялічылі беларускі рэпэртуар і для беларускага тэатру маюць значэньне больш гістарычнае. Сапраўдны-ж росквіт беларускага тэатру пачынаецца ўжо пасьля Кастрычніка, што распрыгоніў Беларусь і даў вольна разьвівацца яе нацыянальнай думцы і нацыянальнаму мастацтву. З гэтага часу Беларускі тэатр разьвіваецца ўжо не як аматарскі гурток, не як бедны провінцыяльны тэатрык, а як сапраўдная кузьня сталага і высокага тэатральнага мастацтва. Мы і пастараемся ў нашым кароценькім нарысе спыніцца на найболей яскравых момантах у жыцьці нашага тэатру...

### Дзе ты, кветка нашай долі

У 1922 годзе, калі замоўклі апошнія раскаты вайны, калі краіна наша пачала прымаць свой звычайны, спакойны выгляд, калі ў пэрспэктыве ўжо зьвінелі першыя савецкія залатоўкі,—зьявіліся на менскіх вуліцах сьціплыя афішкі: „На купальле". Песьняру, які распачаў новую пару ў Беларускай літаратуры, давялося даць і першы твор для беларускага новага тэатру—на долю Чарота выпала вялікая гэта заслуга. Нібыта змучаны, увесь у зморшчынах, глянуў на гледача са сцэны беларускага тэатру твар старой Беларусі з яе цудоўнай фантастыкай, барвовымі звычаямі—ў вечным шуканьні недасяжнай кветкі шчасьця, „што цьвіце толькі раз у год—на Купальле". П'еса „На Купальле" пережыла і сямую сябе і свой час. Паасобныя мэлёдыі да гэтага часу можна пачуць шмат дзе: і на комсамольскай вечарыне і на концэрце і дзе хочаце.

### Пад знакам узросту і росквіту

Беларускі тэатр як-бы знайшоў сваю кветку шчасьця. Ужо праз некалькі часу зьяўляецца „Машэка", „Кастусь Каліноўскі". Выпрацоўваецца цэлы шраг таленавітых беларускіх артыстаў і артыстак, як Крыловіч, Ільлінскі, Платонаў, Полла і г. д. Працуюць і старыя артысты, як Ждановіч, Крыніца, Ржэцкая, Грыгоніс. Колектыў БДАТ1 сыграўся і аформіўся на дзіва добра. Нездарма-ж і карыстаўся ён гэтакім посьпехам ня толькі ў Менску, але і па ўсіх гарадох Беларусі, куды выяжджаў ён кожнае лета, пакідаючы менскіх тэатралаў ва ўладзе самых рознастайных гастралёраў са ўсіх канцоў савецкай зямлі. У часе ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўкі ў Маскве наш тэатр даў цэлы шраг пастановак у маскоўскіх тэатрах і карыстаўся надзвычайным посьпехам. А тым часам у тэй-жа Маскве пад наглядам спрактыкаваных майстроў тэатральнае справы вырастае новае пакаленьне беларускага тэатру— будучы БДАТ2.

Кожная эпоха стварае свой стыль,— густ аднае эпохі непадобны да густу папярэдніх эпох. Так, для часоў французскай рэволюцыі, эпохі ў вышэйшай меры пататычнай, не да складу былі прыдворныя драмы старога рэжыму. Нашы дні—дні нэрвовыя і напружаныя, дні барацьбы і будаваньня, калі дорага кожная хвіліна і жыцьцё імчыцца хутчэй электрычнага то-

ку—яны гэтак сама ствараюць свой стыль. Адбіваецца гэта і на тэатры. Утвараюцца плыні, якія стараюцца пабудаваць тэатр адпаведна тэмпу і настрою сягонешняга дня, адкінуць лішнія і непатрэбныя дэталі, даць гармонію простых ліній—так нараджаецца тэатр конструкцый, зьяўляецца левы фронт у тэатральным мастацтве. Такі тэатр у РСФСР прадстаўлены Мэйерхольдам. Уплыў гэтай школы адчуваецца бадай што ва ўсіх тэатрах, наносячы вялікі ўдар рэалістычнаму тэатру. Гэта плынь адбілася і ў беларускім тэатры. Тут мы маем такія пастаноўкі, як „Чырвоная Маска“, часткова „Каваль-Ваявода“ і некаторыя іншыя.

Нарэшце, БДАТ1 узбагаціў беларускі тэатр яшчэ некалькімі буйнейшымі пастаноўкамі, якія вымагалі для свайго выкананьня ня мала сіл і энэргіі. Гэта, перш усяго клясычныя творы чужаземнага тэатру, як „Мешчанін у шляхецтве“ і „Вясковы судзьдзя“. Першая пастаноўка паказала нам, што з нетраў тэатру вырастае новая сіла—балет, што вакол тэатру пачынае фармавацца музычная сіла. Другая яшчэ болей падкрэсьліла сыгранасьць тэатральнага колектыву і высокую кваліфікацыю беларускіх артыстаў.

Апошнімі навінкамі БДАТ1 былі мастацкія хронікі апошніх гадоў—„Кар'ера таварыша Брызгаліна“ і „Перамога“. У гэтых пастаноўках як ня трэба лепей выявіліся ўсе дасягненьні беларускага тэатру. Разьбіўка п'ес апрача дзеяў на абразы ўносіць у дзею шмат жывасьці і забясьпечваюць гледача ад аднастайнасьці, якая наогул прадстаўляе сабою адзін з вялікіх мінусаў тэатру. Разам з гэтым тут патрабуецца большая гнуткасьць і кваліфікаванасьць акторскага колектыву. Бяз гэтага такія вялікія пастаноўкі заўсёды цярпелі-б паўнейшую няўдачу. Праўда, апошняя пастаноўка—„Перамога“ выцерпела вялікую атаку цэлага шэрагу „крытыкаў“ з готэнтоцкім складам думкі, але беларуская грамадзкасьць дала ў свой час добры адпор усім гэтым „крытыкам“ з пальцам у носе. І, бязумоўна, абедзьве гэтыя пастаноўкі, узбагаціўшы асноўны рэпэртуарны фонд БДАТ1, яшчэ на больш шую вышыню ўзьнялі беларускі тэатр. У апошні час бадай што і не знайшлося-б людзей, у якіх хапіла-б сьмеласьці сумнявацца ў мастацкіх якасьцях БДАТ1.

У Я. Купалы ёсьць п'еса „Тутэйшыя“, якая дае нам абразкі жыцьця менскага і наогул беларускага мяшчанства ў часы вайны і рэвалюцыі. Па сваёй мастацкасьці, па маляўнічасьці сваіх гэрояў і іх псыхічных рысак, уласьцівых толькі нашым „тутэйшым“, п'еса дагэтуль ня мела і ня мае сабе роўных. Многія ўбачылі ў Купалавых гэроях свой уласны і, часамі, ня зусім чысты твар: гэта Менскія мяшчане—„тутэйшыя“—інтэлігэнцыя з некаторым ухілам да супакойнага ідэалу ў жыцьці. Паміж іншым, калі ў Маскве была пастаўлена п'еса „Дни Турбиных“, дык здарылася аналёгічная зьява. П'еса—высока-мастацкая—дае малюнак жыцьця белагвардзейцаў у Кіеве, дзе, як вядома, за час грамадзянскай вайны зьмянілася 14 урадаў. І вось гэтыя самыя белагвардзейцы ў канцы п'есы вітаюць прыход Савецкай Улады, як... насіцельніцы ідэі адзінай Расіі!.. Бязумоўна, гэта праглядае ў п'есе ў належнай меры туманна, але прагдядае. Найбольш сур'ёзная і сьвядомая частка гледачоў абурылася супроць п'есы па тэй зразумелай прычыне, што ідэя вялікай Расіі ў нашы дні зьяўляецца перажыткам. Але прытворнае абурэньне выказалі і многія другія, хто, мабыць, пазнаў сябе на сцэне і адчуваў сябе як-бы з твару яго была сарвана маска. Не перавяляліся яшчэ і ў Маскве „истинно-русские люди“. На беларускім вечары ў Дзяржаўнай Акадэміі Мастацкіх Навук вядомы музычны крытык Бугаслаўскі з самым сур'ёзным тварам даводзіў, што беларуская музыка дагэтуль яшчэ мала дасьледавана, што вышаў пакуль што толькі адзін *зборнік беларускіх народных песен Міхельсона* (!!!), што беларуская песьня, у працілегласьць украінскай, характарызуецца асабліваю, надзвычайнаю весялосьцю (!) і што беларусы не прадстаўляюць асобнай нацыянальнасьці, а зьяўляюцца заходнім адгалінаньнем сярэдня-вялікарускай групы. Такія тыпы не прадстаўляюць асаблівай „рэдкасьці“ і ў нас і ў свой час спрабавалі праявіць нават сваю актыўнасьць праз праслаўтага, узьведзенага М. Гарэцкім у сан беларускага пісьменьніка, Пшчолку. Менавіта гэткія людзі супольна з сваімі нязьлічонымі сваякамі па крыві і па духу, гэтыя самыя „тутэйшыя“, бачучы бясспрэчны посьпех БДАТ1, адчуваючы сваё паражэньне, акапаліся ў тэатральнай залі.

Трэба яшчэ адзначыць вялікі посьпех БДАТ1 у справе арганізацыі музыкі і балету.

**Новая зьмена**

Івось беларуская акторская моладзь канчае сваю вучобу ў Маскве і прыступае ўжо да самастойнай працы спачатку ў Віцебску, а пасьля і ў Менску. Рэпэртуар БДАТ2 яшчэ ня вельмі адыйшоў ад вучнёўскіх програм.

„Сон у летнюю ноч", „У мінулы час", „Апраметная"—гэтыя пастаноўкі ня зусім могуць задаволіць беларускага гледача, расьпешчанага монумэнтальнымі пастаноўкамі БДАТ1, хаця ў Маскве яны карысталіся значным посьпехам, аб чым сьведчаць шматлікія рэцэнзіі ў „Правде", „Известиях" і іншых маскоўскіх газэтах. Таму адна група гледачоў спаткала БДАТ2, на які ўскладаліся вялікія надзеі, даволі роўнадушна; другія гледачы—„тутэйшыя" з пенай на вуснах распачалі шалёную лаянку супроць маладога тэатру.

Заместа здаровай крытыкі, заместа об'ектыўнай ацэнкі памылак і шчырых парад, малады тэатр атрымаў толькі цэлую сэрыю ядавітых рэцэнзій, дзе розныя „псэўдонімы" дэмонстравалі сваю стопроцантную ортадаксальнасьць і поўную нікчэмнасьць тэатру.

Гэта адносілася ня толькі да вышэйпамянёных пастановак, якія на наш погляд, зьяўляюцца даволі слабымі і заслугоўваюць цэлага шэрагу крытычных уваг. Сюды папалі і некоторыя лепшыя пастаноўкі, якімі можа сьмела ганарыцца беларускі тэатр. Гэта „Цар Максіміліян", „Астап" і „Каля тэрасы".

Першая—гэта агульнавядомая народная п'еса, так сказаць гармонізаваная ў духу навейшых вымаганьняў тэатральнага мастацтва. Шляхам конструкцыйнай апрацоўкі тэатру ўдалося надаць п'есе пэўную ідэолёгічную афарбоўку. Горад Антон, сталіца „грознага цара Максіміліяна" прадстаўлены ў пастаноўцы ў выглядзе вялізарнага павука, увенчанага царскім тронам. Такая конструкцыя як найлепей адпавядае п'есе—аднэй з нямногіх памятак залатой пары беларускай культуры, якая захавалася да лепшых дзён у нетрах працоўнага сялянства.

„Астап" менскім гледачам вельмі нагадуе „Кар'еру таварыша Брызгаліна". У аснову п'есы ўзята апавяданьне Чарота „Саматканная сьвітка"; у п'есе даецца тып комуніста, папаўшага ў НЭП'аўскае балота і засмоктанага ім.

Самаю апошняю навінкаю БДАТ2 зьяўляецца п'еса М. Грамыкі „Каля тэрасы". П'еса дае хроніку настрояў і фігур часу Кастрычнікавай рэволюцыі. Удалыя зарысоўкі панскай сям'і Борэновічаў „на тэрасе" і таго стыхійнага сялянскага руху, што нарастаў „каля тэрасы"—гэта робіць п'есу сапраўды мастацкаю каштоўнасьцю. П'еса „Каля тэрасы" азначае новы значны крок беларускага тэатру па шляху яго росту і разьвіцьця. Мы дазволім сабе тут прывесьці ацэнку гэтай п'есы польскаю і чэха-славацкаю рабочаю дэлегацыяй. Вось ліст польскай дэлегацыі:

„Тэатр беларускі ў Менску, які радзіўся дзякуючы перамозе Кастрычнікавай рэвалюцыі, які пачаў адбіваць новыя плыні ў творчасьці, зьвязаныя з тагочасным агульным рэвалюцыйным пераломам, пакінуў у нашых думках уражаньне, якое застанецца ў нас назаўсёды.

*Рэалізм твору „Каля тэрасы"*, шырокая артыстычнасьць шэрагу сцэн, дасканалая рэжысура,—усё сьведчыць аб тым размаху, з якім малады беларускі тэатр на службе пралетарскай культуры так разьвінуўся, яму мы прадказваем слаўную будучыну.

Артыстычнай суполцы шчырае пралетарскае павіншаваньне".

**Ч. Ясінскі, Ч. Лучак, Кароль, Марта Шурская.**

(„Сав. Бел." № 273).

Ня менш прыхільна адазвалася аб пастаноўцы „Каля тэрасы" і чэха-славацкая дэлегацыя.

— П'еса „Каля тэрасы" зрабіла на нас моцнае ўражаньне. Мы ўбачылі ў тэатры высокую мастацкую рэвалюцыйную пастаноўку і дасканалую ігру артыстаў. Гэта проста дзіўна, калі ўзяць пад увагу, што беларуская культура і ў прыватнасьці беларускі тэатр зарадзіліся толькі некалькі год таму назад. *Беларускі тэатр ня толькі ня ўступіць чэха-славацкаму тэатру, але ў некаторых адносінах стаіць нават вышэй яго.*

(„Сав. Бел." № 275).

— Бязумоўна, рэцэнзэнты, якія нападалі на пастаноўкі—адзіночныя галасы і ніяк ня могуць зьменшыць вартасьць гэтай пастаноўкі, якая ўжо знаходзіць сабе належную ацэнку з боку нашага грамадзянства.

У гэтай пастаноўцы маладыя артысты БДАТ2 выступаюць ужо не як вучні, а як сапраўдныя мастакі сцэны.

# Горацкая сельска-гас



Фізыка-хэмічная лябораторыя



Габінэт беларусазнаўства

## падарчая акадэмія



Мінэролёгічны габінэт





Гадавальнік расьлін

# Беларускія дэпутаты польскага сойму перад судом

## Па справе Беларускай Грамады панская Польшча аддае пад суд лепшых культурнікаў Заходняй Беларусі

**Браніслаў Тарашкевіч**—радзіўся ў 1892 годзе ў Віленскім павеце. Вучыўся ў гімназіі ў Вільні, дзе пазнаёміўся з беларускім рухам і супрацоўнічаў у „Нашай Ніве“ (Наша Ніва“—адна з першых беларускіх газэт соцыялістычнага кірунку, што выходзілі ў Вільні пасьля 1905 году). Ён вучыўся ў Петраградзкім унівэрсытэце на філёлегічным факультэце, маючы намер спэцыяльна працаваць над разьвіцьцём беларускае мовы. У 1918 годзе ён атрымаў права чытаць лекцыі па беларускай мове ў Петраградзкім унівэрсытэце. Але яго цягнула на бацькаўшчыну —у Беларусь, і ён перабраўся у Менск дзе стаў чытаць лекцыі ў Пэдагогічным інстытуце. У той-жа час ён надрукаваў і сваю граматыку беларускае мовы.



Б. Тарашкевіч

Не абмяжоўваючыся навуковаю працай, Тарашкевіч прымае чынны ўдзел у беларускай політычнай працы, як сябра Савету Рэспублікі ў Менску і пасьля гэтага, як старшыня Савету Віленшчыны і Горадзеншчыны ў Вільні.

Будучы абраным у польскі сойм дэпутатам ад беларускага сялянства, ён заняў адно з першых месц сярод прадстаўнікоў Заходняй Беларусі.

**Сымон Рак-Міхайлоўскі**—радзіўся ў 1885 годзе. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую сэмінарыю, а потым Феадасійскі пэдагогічны інстытут.

Грамадзкая праца Р. М. пачынаецца з часу першай рускай рэволюцыі ў 1905 годзе. Тады сяляне паслалі яго хадаком у Дзяржаўны Сойм (Думу).

У рэволюцыі 1917 году ён выявіў вялізарную энэргію ў працы сярод беларусаў у былой царскай арміі на ўсіх франтох і ў організацыі Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, старшынёю якой ён быў выбраны. Ён таксама зьяўляецца адным з організатараў І-га Ўсебеларскага зьезду ў Менску. Быў членам Савету Рэспублікі, а пасьля членам Беларускай Вайсковай Камісіі ў Менску. У 1918 годзе ён заняў пасаду дырэктара першых дзесяцімесячных беларускіх настаўніцкіх курсаў у Менску.

Пасьля адчыніў у Барунах, Ашмянскага павету, Беларускую Настаўніцкую Сэмінарыю.

З восені 1921 году ўвесь час працаваў у Вільні, як настаўнік беларускай гімназіі, сябра віленскага беларускага нацыянальнага камітэту і віцэ-старшыня беларускай цэнтральнай школьнай рады.



Бурсэвіч—сакратар Грамады



Мятла і Валошын

**Пётра Мятла**—сын селяніна, радзіўся ў вёсцы Кухніцы, Язьненскай воласьці, каля Лісны, працаваў настаўнікам у народнай школе. Пасьля абвяшчэньня вайны быў узяты ў армію.

Вярнуўшыся з фронту, ён далучыўся да беларускага вайсковага руху і працаваў у беларускай вайсковай камісіі ў Вільні. Апрача таго, ён шмат працаваў для разьвіцьця коопэрацыі і беларускае асьветы і для адчыненьня беларускіх школ.

**Паўла Валошын**—сын селяніна, радзіўся 28 чэрвеня 1891 году ў вёсцы Гаркавічы, Сакольскага павету, скончыў аляксандраўскае рамеснае вучылішча ў Екацярынаславе, служыў у паштовых установах на Горадзеншчыне. З 1913 па 1921 год ён быў у арміі, некалькі разоў быў палонным. Вярнуўшыся дадому, ён выявіў сябе сьвядомым сынам беларускае вёскі, уносячы ў акаляючую яго грамаду дух адвагі змаганьня за свае правы. 28-га ліпеня 1923 году быў абраны ў сойм.

**Фэлікс Галавач**—селянін Валокінскага павету, Новагрудзкай губэрні. Дэпутатам абраны па сьпісу паўсялянскай партыі „Вызваленьне“, якая тады ставіла сваім лёзунгам дармовае надзяленьне сялян абшарніцкімі землямі, нацыянальную незалежнасьць ды іншае. У 1924 годзе, пераканаўшыся, што „Вызваленьне“ вядзе згодніцкую політыку ў вадносінах да польскага ўраду і ня думае аб ажыцьцяўленьні гэтых лёзунгаў, ён вышаў з гэтай партыі і разам з іншымі сялянскімі дэпутатамі організаваў незалежную сялянскую партыю.

Польскі ўрад ужо аднойчы патрабаваў ад сойму, каб Галавача пазбавілі дэпутацкай недатыкальнасьці, грунтуючыся на бязумоўна хлусьлівых паказаньнях нейкага Юніевіча, зробленых вымушана пад катаваньнямі ў польскай ахранцы,—быццам Галавач прымаў удзел у нападах на польскіх пагранічнікаў. Але к моманту абмеркаваньня гэтага пытаньня ў сойме Юніевіч абвясьціў сваё адмаўленьне ад ранейшых паказаньняў, і справа аб выдачы Галавача была спынена. У лютым 1927 году Галавач быў арыштаваны, як адзін з кіраўнікоў Грамады, і засаджаны ў катаржную турму Вронкі. З прычыны



Акінчыц—юрысконсульт Грамады

# Да 50-годзьдзя з дню сьмерці расійскага паэты Некрасава



Некрасаў

Споўнілася 50 год з часу сьмерці расійскага поэты Некрасава.

Да Некрасава ў Расійскай поэзіі амаль ня было грамадзкіх мотываў. „Прастанародзьдзе" усім адсутнічала ў творах лепшых поэтаў 19 сталецьця. Некрасаў адзін з першых адмовіўся ад поэтычных роз і мараў і не пасаромеўся адзець у поэтычныя формы так званыя „нізкія" рэчы—лапці і сьвітку. Некрасаў у сваіх вершах ганьбіў цемру расійскага жыцьця і яе гаспадарку—чыноўнікаў, папоў, кулакоў.

Больш усяго ён сьпяваў пра вёску, пра падняволеную сялянскую працу. Вёсцы ён прысьвяціў свае лепшыя вершы.

Некаторыя яго вершы таксама апяваюць і рабочых. Напрыклад верш, „Железная дорога". Тэмай для гэтага вершу паслужыла пабудова „Мікалаеўскай", цяпер „Октябрьской" чыгункі. Чыгунка гэта будавалася па загаду цара. Граф Клейнміхель, які будаваў чыгунку, выціскаў з рабочых сілу і здароўе. Аб пабудове гэтай чыгункі і расказвае Некрасаў у вершы—свайму вагоннаму спадарожніку, гэнэральскаму сыну Ваню:

Труд этот, Ваня, был страшно громаден—
Не по плечу одному!
В мире есть царь: этот царь беспощаден,
Голод названье ему.
Водит он армии; в море судами
Правит; в артели сгоняет людей,
Ходит за плугом, стоит за плечами
Каменотесцов, ткачей.
Он-то согнал сюда масы народные,
Многие—в страшной борьбе,
К жизни воззвав эти дебри безплодные,
Гроб обрели здесь себе.

А ў адным сваім вершы пра сялянскую долю, ён пытае ў сялянкі, якая жне жыта:

Вкусны ли, милая, слёзы солёные
С кислым кваском пополам?..

Бязумоўна, і ў Некрасава былі памылкі. Напрыклад, ён напісаў быў хвалебны верш вешальніку—Мураўёву.

Але тут мы адзначаем вялікую каштоўнасьць яго паэзіі.

---

## Зіма

### Янка Відук

Ну, от ізноў зіма.
Пушыстыя сьнягі
завеялі далёкія палянкі.
Дарога вузкая размашыстая бяжыць
і лёгкія бягуць са скрыпам санкі.
Ня кланяйся, бяроза, мне ў прывет;
дай я табе—
зьніму з прыветам шапку.
Я ад'яжджаў—
ты асыпала ўсьлед
сваіх лістоў
падсохлыя аладкі.
Цяпер і ты, няйначай, падрасла
і можа
многа нават пасталела.
Фатою белаю свой абцягнула твар
і хвартушок падперазала белы.
Ну, што-ж хавай
Узрокі чулых воч.
Нават і я на шмат пераняніўся.
Раўніны мілыя, ад вас уцёк я ўпроч,
каб даражэй маглі вы мне прысьніцца.
Сьнягі, сьнягі. Разьбежыны дарог
Б'юць капыты па мошчанай хрусталі.—
Эй, добры дзед, які гэта сьлядок
і мы цяпер куды гэта папалі?
— А вам куды?
— Нам трэба ў Кулікі.
— Эге, сынкі,
ня гэтая вам трэба—
і сукаваты палінялы кій
канцом паказвае засмужаны край неба.
— А ну, гляды!—
Ізноў прастор зьвініць—
узьбівае шкло дарогі капытамі.
А ночка ўжо запальвае агні—
разьвешвае зарніцу кутасамі.

# Беларусь *)

А. Сабурны

Ляоы, балоты, сенажаці,
пяскі спустошаных палёў,
і вёсак нязьлічоных раці
і натоўп муроў—гарадоў.
Рачулкі, рэкі і вазёры;
шляхі, чыгункі, людзі скрозь.
І неба сіняе як мора—
усё гэта 'шчэ не Беларусь.
Краіна скутая пакутай,
краіна зьлітая крывёй.
Краіна плеці, лапця, путаў—
была праклятаю зямлёй.
Зьвінелі мечы тут аб мечы
трашчалі дзіды як быльняк—
гэроі жудаснае сечы
сюды зьяўляліся ня так.
Зямля—пляцдарм спрадвечнай мукі
ўсіх нашых прадзедаў, дзядоў—
была прытулкам беларускіх
князёў, паўкняжычаў, ксяндзоў.
Сюды зьляталіся ў госьці
магнаты, віцязі, паны,
пілі і елі з чорнай косьці
і балі ладзілі яны.
Хто тут ня быў? Пад град бізунны
зьдзіралі скуру з мужыка,
палі пустошылі дазваньня
і кпілі з цемры бедака.
Сонцам сьветлым доўгачаканае зары
паўстаў Кастусь—
па ўсіх паветах заклік да волі!
„Ожел двуглавый“
„Ожэл бялы“
у раз узьняліся з груганьнём,
у крыві ўтапілі гонар краю,
а стогны плач—
яго сыном.
Міналі дні. Міналі ночы
Паўзьлі сухотныя гады.
Крывавы дым піў злосьць у злосьці
І з шчасьцем ладзілі паны.
Гной ран Кастрычнік зьмёў агнём—
усе: пакуты, панства, краты,—
і вольным стаў у палёх араты
і годзе больш служыць паном.

Ды палову адарвалі Беларускае зямлі
ненасытныя пражоры,
ненасытныя паны.

Адарваная ў бясшчасьце вялікапольскім кіпцюром,
Гіне ў сьцюжы і ў бясшчасьці беларускае сяло.

Але волі непазбыўнасьць
не ў паноў трымае сьцяг.
З хатак цёмненькіх, маленькіх
паразбураных былым—
вышлі людзі—
сонц праменьні разьліліся ўжо ім.
Тут цагліна
там цагліна
камень тут, там бервяно
і расьце новы будынак—
к сонцу цягнецца адно.
Толькі ў часе будаваньня
нечы глуха стогн чуваць.
—Гэй, браты! Хутчэй! да раньня
Трэба ўсё пабудаваць!—
Й пабудуем —з намі воля!
Не дарма рука—мазоль!
І магутнасьць песьні новай
льлецца ў далі й топіць золь.
Гучнасьць песьні беларускай
моцны сьпеў музычных слоў!
Віецца радасьць—сонца рушыць
Словы волі ўсіх моў.
Вось яна
Мая краіна!
Мая родная зямля
Мая новая айчына—
Беларусь мая!

*) Аўтар гэтага вершу—малапісьменны працаўнік саўхозу з Аршаншчыны. Рэд.

---

Бягуць, кусты, бяжыць на сустрач ноч...
Мінаем лес. Мінаем пералесак
А наддалёк агнямі воўчых воч
мігаюць вокны хаты сельсавету.
Прыехалі. Працяглы скрып дзьвярэй
і валенкі патоптваюць падлогу.—
Скажэце—дома старшыня, Карней?..
А мы да вас ледзь-ледзь—нашлі дарогу...
— Ну, то й нашлі, скідайцеся-ж браткі,
ды грэйцеся мароз—бо ніштаваты...
А ты, Ганула, кінь свае ..аткі
ды падагрэй там кавы ці гарбаты.
— Ну, як-жа там у горадзе?
— А так—зіма з марозамі, бываюць і завеі—
Хэ, хэ ! У нас буйнейшай пекнаты,
такія гурбы толькі паглядзелі-б.
На печы дзед мармыча нам у тон..
Ўвіхаецца ў мыцельніку Рудзька.
Старэнькая гудзе верацёном—
часамі слухае і забаўляе ўнучка.
І ахапіў сямейны, цёплы круг
людзей чужых, але сваіх і м..ых.—
...Гады праз два пабачце, куплю
на сельсавет Фардзонскую кабылу...
І старшыня сярэдні старычок
ў гарачай гутарцы размахвае рукамі.
На покуці храпе і дрэмле кот.
А за вакном, за вакном заходжваецца замяць.
Сьнягі, сьнягі. Як можна ня любіць
і сельсавет і Случчыны палянкі.
Дарога вузкая размашыста бяжыць
і лёгкія бягуць са скрыпам санкі.

## ФЭЛЬЕТОНЫ АЛЁШЫ

# Казлы падводзяць...

Раней бывала выступіць які Пшчолка супроць беларусізацыі, а мы яму бывала пакрысе зьбярэмся дый адпішам, і зноў, бывала, усё ціха...

Цяпер „Пшчолка“ сур'ёзьнейшы пайшоў, цяпер ён выступіць супроць беларусізацыі, а мы яму пакрысе пакуль зьбярэмся, дык ён нам „апяць“...

— Нацыянал-дэмакраты!

— Шавіністычныя хуліганы!

— Мазурыкі!...

... Мы і маўчым...

... Раней бывала выступіць які Пшчолка супроць беларусізацыі, то ён хаця нейкае адношаньне мае да культуры, а цяпер...

Чытайце тварышы вось гэткі дакумант:

**Вынятка з матар'ялу ЦП Мэдсанпрацы**

> „У Бабруйску вэтпрацаўнікі па пытаньню аб вывучэньні беларускай мовы кажуць:
>
> „Зачем нам белорусский язык, наши больные в нем не нуждаются“...

Вось яно значыць што...

А я думаў бабруйскія вэтэрынары, — па тутэйшаму, а яны значыць з пацыентамі ўмовіліся:

— Іга-га! Не нуждаемся... М-м-му! зачем нам ваш язык?...

Як ім цяпер гэным „дзядзям“ давядзеш адваротнае, калі яны ледзьве што якое, адразу-ж:

Пашто, маўляў, нам беларуская мова, калі ніводзін казёл яе ня ўжывае?

Маўчым...

. . . . . . . . .

. . . . . . . . .

Адно толькі мне здаецца неэтычным з боку Бабруйскіх вэтэрынараў.

— Пашто гэта Бабруйскія вэтэрынары ўсю віну ўскладаюць на казлоў...

Бо, вось-жа я ні разу ня чуў, каб казлы, што якое зрабіўшы, склалі з сябе віну на бабруйскіх вэтэрынараў.

Ня добра гэтае з боку вэтэрынараў.

... У гэтым фэльетоне трэба быць надзвычайна далікатным, бо ў гэткім пытаньні патрэбна „лінія“...

А то-б я такую „лінію“ загнуў...

— Дальбог!..

---

# Пра „небаракавыя ахмістрыні“...

Адзін гумарыста сьцьвярджаў, што бог зьляпіў чалавека ня абы як, а з разрахункам, па пляну, разумна, адным, словам —„по образу и по подобию“..

Бо, каб скажам бог зьляпіў без разрахунку, ні „по образу и ни по подобию“ дык, як сьцьвярджае гумарыста, ён-бы мог прыляпіць руку туды, адкуль ногі растуць, ці вуха мог-бы прыляпіць, туды-дзе нос і вышла-б гэта, на мой пагляд, вельмі нязграбна!...

А так,—дык кожная частка чалавечага цела служыць для таго каб разумна выконваць свае абавязкі:

— Скажам, ногі служаць, каб уцякаць; рукі, каб адхрышчвацца, а галава, каб шапку насіць...

Але, гэта сьцьвярждэньне на мой пагляд крыху перавялічана, бо я ведаю некалькі галоў, якія апроч сваёй галоўнай функцыі насіць шапку, выявілі намер думаць і менавіта наўмысьля; каб скампраментаваць іншыя часткі свайго чалавечага арганізму...

Скажам гэткі выпадак, студэнт 3-га курсу славутай Горацкай Акадэміі піша пісьмовую працу,—спачатку па расейску, а потым перакладае на беларускую мову гэткі сказ:

п а р а с е й с к у:

> — „поэтому мы в союзе с бедняком и середняком должны улучшать экономику сельского хозяйства.

п а б е л а р у с к у.

Студэнт 3-га курсу славутай Беларускай Акадэмі і перакладае гэтак:

> „загэтым мы, у саюзе з небаракам і асяродачнікам павінны палепшаць ахмістрыню сельскае гаспадаркі“.

Тут ужо відавочна, што „небаракава ахімістрыня“ наўмысьля скампраментавала, іншыя шчыра выконваючыя свае абавязкі часткі студэнцкага „асяродачніка“...

Альбо другі выпадак. Доктар Магілеўскага Інспэктарыяту Аховы Здароўя слова „аборт“ пабеларуску акрэсьліў гэтак:

**„Мастацкае перарыванъне цяжарнасьці“.**

Вось гэта „да“! Гэта доктар! Гэта „па образу и по подобию?“.

Гэты носіць шапку ўпэўнена, бо добра ведае прызначэньне сваёй галавы...

Альбо, вось вам яшчэ, дарагія чытачы, і не чытачы, выпіска з дакладу Магілеўскага Акрана ў якой Акрана супакойвае Народнага Камісара Асьветы Беларусі.

Няхай, мауляў, Антось Васільевіч Баліцкі, ведае:

**„У сучасны момант сялянства асвоілась з беларускай мовай і адносіцца да яе прыхільна“.**

А трасца вашай матары,—як тая бабка Агапка казала,—а як-жа мы раней гаварылі?...

Гэткіх выпадкаў я таварышы ведаю шмат..

Сумна таварышы...

... Некалі Генрых Гэйнэ пісаў:

— Я вымагаю ад жыцьця зусім мала...

— Я жадаў бы мець невялічкую хатку, але чыстую і сьветлую...

— Я жадаў, каб навакол гэтае хаткі быў нявялічкі садзік і каб у гэтым садку расло некалькі дрэў...

І калі бог ужо да канца будзе літасным да мяне я хацеў бы, каб на гэтых дрэвах вісела чалавек 8—10 маіх бліжэйшых ворагаў...

У мяне няма гэткіх нахілаў да „ўласнай“ хаткі да „ўласнага“ садзіка, але я з прыемнасьцю саступіў-бы некалькі дрэў з Менскага гарадзкога саду на чалавек 8-10 русацяпаў, якія зьдзекваюцца над маёю моваю, і якіх я хацеў-бы бачыць менавіта ў гэткіх позах...

Адна мая знаёмая, а ўласна бабка Агапка казала, што гэным „паразітам“ на гэным сьвеце нічога ня зробіш і карыстаючыся сваімі ведамі па гэтаму пытаньню, паабяцала для іх пэўны занятак на тым сьвеце, каля гарачай патэльні, але я як чалавек грэшны, вельмі мала спадзяюся на загробнае жыцьцё і тым больш на загробную патэльню, а таму аддаю перавагу майму жаданьню пабачыць іх менавіта на гэтым сьвеце і менавіта на дрэвах нашага саду...

Што-ж датычыцца слоў бабкі Агапкі аб тым, што на гэтым сьвеце гэным „паразітам“ колькі чаго не жадай, а ўсёроўна нічога ня зробіш,—дык з гэтага боку яна бязумоўна ня мыляецца...

Бабка Агапка—разумная бабка!..

---

## Памылка

**Лявон Кісялёў**

1

Марыў Аляксей; праца з рук—каменем: засьцілі думкі...

— Эх, заехаць—у горад, на якую-небудзь пасаду; цяжар грузіць—і то згадзіўся-б. Вось Цімох з Слабады жыве, прыпяваючы жыве, ліст прысылаў... Заробіць—потым сюды назад... Усялякая дзеўка пойдзе...

Няма былой мазолістай ласкі, чуе Аляксей: падбіраецца да горла маток злосьці і агіды, ладзіць нешта па сэрцу сьцябануць балюча-балюча... З маткай грубей. Старая нічога не гаворыць, а гора сваё ў каморцы выплачыць. Ой горкія матчыны ьлёзы, палынныя!.. Выцьвітае позрак, зусім ня бачыць.

... Прыехаў з поля, злосьць кіпіць у грудзёх.

— Што, маміца, моліцеся плачаце—дарма!..

Крэўнай зьнявагай уліліся словы. Жадала нешта вымавіць—жаль сьціснуў вусны...

Бачыў Аляксей: зьбіралася старая—зьбірала свае манаткі, што ад дзявоччыны засталіся, завязвала вузёльчыкі.

Моўчкі. І цяжка для абодвых.

На другі дзень—упрочкі да старшай дачкі. Аляксей з лесу латы прывёз—у загарадзі былі схаваны,—хата на зашчэпцы.

Як ня прыкмеціў. Толькі, сустрэўшыся, і запытаў у Мар'і:

— Матка, кажуць, у вас... Я яе...

Асекся голасам.

... У гумне—залаты паўзмрок. Ледзь прыкметны цень: стаіць нахіліўшыся чалавек,—марыць Аляксей, задумённа цэдзіць праз пальцы жоўта-сыпучыя зёрны жыта з толькі-што зьвеянай кучы.

2

Дні акунуліся ўвосень. Сплыла залатая замяць збожжа ў гумны і праца будзіла зялёную стынь раньня: перапеўна гудзелі цапы, шырыўся сіні лёскат- малатарні. На полі—павуціньне чапляецца за войстрае іржэньне. І з кожнай зарой падбліжаліся замаразкі: у садох ніцма ляжалі спаданкі і пярэсьціліся сваёй буйнасьцю—спаданкі

# Агляд вершаў надасланых у „Чырвоны Сейбіт“

**П. Глебка**

## I. Выбар і распрацоўка тэмы

У мінулым нумары „Чырвонага Сейбіта“ мы разгледзілі вершы надасланыя ў рэдакцыю да 15 кастрычніка. Сёньня-ж зноў гэтых вершаў ляжыць у рэдакцыі каля тысячы. Ня будзем пералічаць аўтараў (гэта мы зробім у паштовай скрынцы гэтага і чарговага нумароў „Ч. С.“), а пяройдзем непасрэдна да разгляду твораў. У гэтым артыкуле я спынюся толькі на тым, якая тэма бярэцца і як яна трактуецца ў надасланым літаратурным матар'яле, а іншым пытаньням творчасьці, як рытм, рыфма і г. д., мы прысьвецім асобныя артыкулы ў далейшым.

Тэма, якую бяруць вясковыя аўтары, як ужо зазначалася ў мінулым нумары, у большасьці-дробныя вясковыя здарэньні, ненармальнасьці ва ўстановах на мясцох, наагул, як кажуць, „злоба дня“.

Гэта адзін від тэматыкі. Другі від гэта—прырода, праца, дзяўчына, каханьне, песьня, рэволюцыя, рэволюцыйныя сьвяты і г. д. Трэба адзначыць, што першы від тэматыкі больш усяго сустракаецца ў менш адукаваных вясковых аўтараў.

І гэта зразумела чаму, бо яны менш знаёмы з сучаснай літаратурай і яна не магла навеяць ім сваёй тэматыкі. Другі від тэматыкі мы сустракаем у больш адукаваных хлапцоў, якія відаць, чытаюць сучасную літаратуру, ведаюць яе. Гэты від тэмы не такі ўжо самабытны, як першы. Бо калі сярод рознага гэтага матар'ялу мы можам спаткаць сапраўды цікавыя здарэньні, якія могуць паслужыць сюжэтам для твору, дык у тэматыцы другога віду гэтага няма. Тут літаратура навеяла свае густы і тэма другога віду больш шаблённая, зьбітая. І па майму, першы від тэматыкі былі больш удзячны, бязумоўна, калі тэму мастацкі распрацаваць.

Для ілюстрацыі сказанага прывяду прыклады. З разгледжаных мною вершаў, аднесеных па тэме да другога віду мы маем: прырода, вясна, лета, зіма, восень, лес, поле; праца-жніво араты, каваль,

---

былі пахучыя і сакавітыя, як пасьпелыя—без чарвы; дыміўся ціхім жалем лістапад; чырвоны мэталь лісьця засьцілаў зямлю; маркотнае турлыканьне вісела ў просіні: ляцелі журавы...

Аляксей на гумне з малацьбой справіўся: дапамагла радня. Клапатліва зьбіраўся а ад'езду.

Увечары—посуд тады перамываў ля судніцы—у ваконце:

— Стук-стук-стук...

Паглядзеў: пазаватая-Папінічыха.

— Прыходзьце, Аляксей: па бацьку год... Гукалі вас да Мар'і...

Адрэзаў ёй кавалак хлеба і праз вакно падаў; не жадаў каб у хату заходзіла.

— Добра. Прыду...

— Дык вы, Аляксей, абавязкова!.. Гукалі...

Успомніў пра матку—не паўшоў. Усю ноч з дзеўкамі гуляў. Дзеўкі—ліпучыя ды жаркія, чутна праз вопратку, у вочы—ласьліва, каб не забыў... Асабліва гэтая вымяная і прухкая, як капа сена, Наста. Усё вязьне і гарачым дыхае проста ў твар.

Сядзелі ля Хамчанковай лазьні.

Кажа:

— Паспрабуй, Аляксей, да мяне... Ці паддамся я!..

Зьмяшалі: хлапцы нюхам пачулі, дзе Аляксей, прышлі гукаць на вечарынку.

Рагаталі тады.

І хваліліся пра справы з Настай: ці праўда, ці проста—гонар хлапецкі?!.

Кінуў хадзіць з ёй, не сустракаў ч.

3

Над узгоркам вецер сінімі рукавамі махае, а бярозы—высокія, стромкія з вісучым гольлем—лісьце асыпалася—пасылаюць уздагонку ціхае разьвітаньне...

Аглянуўся Аляксей—схавалася Балоньне: далёка адышоў. Сьцюдзёна, па-восеньску раньне, бадзёрай крочыць.

Мільгаюць знаёмыя мейсцы: калісьці з вясковымі хлапцамі на станцыю ў фурманкі езьдзіў.

Думкі віюцца, як хмель...

... Паненька—гэткая шчуплая ды напудраная, над ёй:—„ЗАГС“. Чорнымі буйнымі літарамі.

— Едзеце... Куды... Далёка ад сельсавету... Колькі гадоў?!.

Сьмешна Аляксею: колькі

малацьба і г. д. Як бачым, усе гэтыя тэмы ў беларускай літаратуры распрацоўваліся і ў вясковых аўтараў яны лепш распрацованымі быць ня могуць. Сяроджа тэм, аднесеных мною да першага віду, мы сустракаем і новае: марак (апавяданьне селяніна, былога матроса), пастух (верш як пастух зрабіўся старшынёю сельсавету) і г. д. Дык вось, калі тэму першага віду распрацаваць больш мастацкі, адкінуць голую агітку, дык твор будзе па тэме больш сьвежым, больш новым. Бяда ўся ў тым, што як першы від тэмы, так, нават, і другі (хоць тут аўтары больш пісьменныя) распрацоўваецца вельмі проста, галаслоўна. От-жа мы і пяройдзем да разгляду распрацоўкі тэмы.

Разглядаючы распрацоўку тэмы ў вершах, трэба мець на ўвазе два тыпы вершаў-лірычныя і эпічныя (невялікія поэмы, апавяданьні вершам) зноў-такі цікава тое, што лірычныя вершы пішуцца больш усяго на тэмы другога віду, а эпічныя на тэмы першага віду. Разгледзім спачатку распрацоўку тэмы ў лірычных вершах. Бяру самую шырокую тэму—прырода.

Першы прыклад—„Зіма“ верш Лаўнініна. Зьмест у лірычных вершах вясковых аўтараў часта зусім адсутнічае, а часта вельмі туманны. У гэтым вершы зьмест прыблізна такі:“ Як глянеш на прыроду, дык кругом сьнег і страх бярэ чалавека, а ўлетку-ж было так весела, бо рос ячмень, гай быў у лісьце адзеты, а цяпер гай стаіць як бяспрытульны, і ўсё заснула“. Калі-б гэта быў чыста прырода-апісальны верш, тады яшчэ нішто зрабіць прыгожае параўнаньне зімы з летам і на гэтым скончыць. Але аўтар роўналежна з апісаньнем прыроды роўналежна з зьменаю пары году хоча даць і свае паражываньні, перажываньні чалавека. І робіць ён гэта вельмі проста: „як глянеш ўзімку на прыроду, аж сумна, страх цябе бярэ“.. Якія перажываньні выражаюць і перадаюць чытачу гэтыя радкі?—вядома што ніякіх. Бязумоўна, што ў лірычных вершах, глыбіня перажываньняў, настраёвасьць больш усяго перадаецца праз мастацкае афармленьне (вобразнасьць, рытм і г. д.), але і распрацоўка тэмы, ці як кажуць сюжэтная композыцыя іграе вялікую ролю. Калі ў вершы паставіць у пачатку адно пытаньне, далей другое—процілеглае першаму—і, нарэшце, у заключэньне сынтэзываць (абагуліць) гэтыя пытаньні, дык верш шмат, а шмат выйграе. У лірычных вершах контрасты ў перажываньнях іграюць такую-ж ролю, якую ў эпічных творах іграе інтрыга. А гэтага

---

гадоў жыў, а пра гады ніхто ня пытаўся!..

— Ня ведаю... Кажуць, што разам з Алёксай Тапешкавай.

Усьміхаецца паненка.

Вышаў—у хустацы пасьведчаньні завязаны. І ведае, колькі гадоў яму: васемнаццаць.

І радасна... Здаецца—кожны глядзіць.

Зрабіў канчаткова: хату пад арэнду Хаіму-краўцу, жыта ўсё прадаў...

Стаялі абапал векавыя бярозы—вартавалі брукаваную стужку сашы.

Увечары—станцыя, далёкія—туды ў горад—райкі...

Шлёпаюцца далонямі буфэры, зьвіняць сталёвым перазвонам, калышыць вагон.

— Так-так-так... так...

Гоман...

Я, брат, хадок... У Менск.. Амур-краіна... Цяжка жыць тут: цесна...

Хіліць да сну.

„А мой адрэс такі: у горадзе Менску, на галоўнай пошце, запытаць самага старшага кур‘ера Цімоха Рыгорава Банбандзера“...

4

Аглушыла—ляскам, грукатам, выкрыкам, звонам: горад... Ганарыста спляліся шыльды, вітрыны—магазыны; запляліся ў вузлы вуліцы і правулкі—пляцы; сноўдаецца нечым цэльным (нельга разадраць і прайсьці),—натоўп...

Клапатліва:

— Боты новыя... зб‘юцца на няма ніц. Усюды камень, збочвае, мільгае—зрэбная лапіка на польтах,—Аляксей. На сэрцы—злом, а ў вачох—пудзіцца зель канаплёвая: страшэнна і радасна ў збытку гарадзкім.

* *
*

Неяк кісла з робленай усьмешкай сустрэлі, а словы ліслівыя...

— Ведаеце, Аляксей, багата нашых было... на пасаду жадалі...

— Мы вядома, не адмовім...

Потым за дашчанай загарадкай, у лажніцы—шэптам:

— Пераводу на іх няма... Дзе яго пакласьці?..

— Зноў адзін у споднім паедзе...

Ня подслухам: так пачуў Аляксей, і першая пляма лягла на гарадзкой радасьці. А пасьля, увечары, ня мог заснуць; у хаце стаяла зацьма і за сьцяной варушыліся на шырокім ложку—чуваць было, як стрымлена і цяжка дыхалі, нешта гаманілі...

вось і няма нічога ў вершах вясковых аўтараў. Яны тэму распрацоўваюць вельмі проста: вось, настала зіма і мне сумна“ (гэта пра зіму), альбо „пакахаў я дзяўчыну, а яна мяне“ (гэта пра каханьне) і так скрозь. Твор, у якім так распрацована тэма, хоць яна чорт ведае якая новая, можа каго зацікавіць? Не! Наогул, у лірычных вершах, вясковых аўтараў, часта зусім няма аднэй суцэльнай тэмы, а ёсьць урывачкі, словы пра ўсё і ўся, як кажуць з усіх сёл па сабаку. Гэта таксама ня плюс вершу.

Паглядзім яшчэ як распрацоўваецца тэма ў эпічных, ці лірычна-эпічных вершаваных творах. Здавалася-б, што тут можна куды ляпей распрацаваць тэму, даць цікавы, сюжэт, аднак вясковыя аўтары зноў рашаюць справу вельмі проста. Напрыклад: „Забойства Камунара“—лірычна-эпічны верш Лебяды.

Зьмест вершу наступны: „Стаіць крыж. Там калісьці быў забіты палякамі камунар. Яго доўга каталі; плакала маці і сёстры. Але-ж не адзін быў забіты Міхалевіч, іх многае забіта, аднак яшчэ шмат, дык няхай жыве Комінтэрн“. Амаль слова ў слова зьмест вершу на радкоў 60. Цікава каму небудзь будзе чытаць такі твор? Не! Значыць, трэба было нейк іначай распрацаваць гэту тэму; трэба было даць іншы сюжэт, заінтрыгаваць чытача. Няўжо-ж аўтар думае, што камуністы Міхалевіч, так хладнокроўна і ўміраў? Міхалевіч шмат перажываў у той час, ды і маці ня толькі „сьлязьмі аблівалася, што час кароткі жыцьця астаўся яе міламу сынку дзіцяці“, а адчувала нешта больш глыбокае, балючае. А вы нічога гэтага ня далі ў вершы,

Гэты грубы прыклад паказвае як няўмела будуецца сюжэт, як няўдала распрацоўваецца тэма. Мала расказаць пра што небудзь, а трэба расказаць умеючы, у такім парадку, каб чым далей разьвівалася дзея, тым больш узрастала цікавасьць,—чым-жа гэта ўсё скончыцца.

Нельга прыпісаць рэцэпта таму ці іншаму аўтару як пісаць вершы; Аднак заўвагі адносна распрацоўкі тэмы, варта прыняць пад увагу. Першая заўвага, адносна лірычных вершаў: трэба браць заўсёды конкрэтную тэму і распрацоўваючы яе насычаць псыхолёгічнымі контрастамі. Другая заўвага, адносна эпічных вершаў: таксама трэба конкрэтная тэма, а распрацоўваючы яе больш прастаты ў разьвіцьці сюжэта, менш заблытанасьці, больш інтрыгі і больш псыхолёгічных перажываньняў.

---

Устаў Аляксей рана. З каморкі вышла жонка Цімоха.

— Вам, Аляксей, варыва гатаваць?..

І сама прытоена нешта разгледжвае.

— Вось я на рынак пайду... Грошы, можа, дадзеце...

Пачырванеў і з непраўдзівай хуткасьцю (потым у сэрцы дражніў сябе за гэтае) даў, урыўкам ткнуў. А ў вушшу зьвінела — дакучліва, нудна:

— Зноў адзін у споднім паедзе...

Тапіліся ружовыя хмары думак у чорных словах...

5

...„Сёньня апошнія грошы страціў: купіў марку на ліст. Калі ласка, вышлеце яму хоць колькі-небудзь рублёў, на праезд... А адрэс мой такі: у гарадзе Менску, на галоўнай пошце, запытаць самага старшага кур'ера Цімоха Рыгорава Банбандзера. Перадаць Аляксею Канцавому“...

* *
*

Увечары—станцыя, далёкія і блізкія—туды, у вёску—рэйкі...

І чуецца Аляксею: зьвініць жытнёвы перазвон, вабяць да сябе жоўта-сыпучыя зёрны...

Калыша вагон...

— Назад-назад. . назад-назад...

Гамонка...

— Зьвяртаемся... Клімат дрэнны... Памром на бацькаўшчыне...

Неба—саломенае, далі—жытнёвыя...

Праца і новае жыцьцё!

... У гумне—саломеная замяць. Гудзіць цэп, гудзіць сэрца...

— Назад-назад... назад-назад...

Марыць Аляксей...

Тады стала ясна яму—радасна працаваць на гаспадарцы, паднімаць урадлівасьць зямлі, узьнімаць гаспадарку.

У гародзе—рабочыя вырабяць і прышлюць у коопэратывы машын.

Радасьць зямлі—поля, вёскі!

Марыць Аляксей.. Шкадуе, што пазбываў з гаспадаркі, памыліўся.

1927 г. Верасень
Чавусы, Зарэчча



# Пролетарскія раманістыя Бэльгіі

## (Артыкул спэцыяльна напісаны для „Чырвонага Сейбіту“)

Леон Берж'е [1])



**Леон Берж'е—бэльгійскі пролетарскі пісьменьнік**

Пролетарскіх пісьменьнікаў налічваецца ў Бэльгіі ня гэтак шмат. Гэта і зразумела, бо наша краіна жыве яшчэ ў умовах капіталістычных. Шмат бэльгійскіх паэтаў (як добра вядомы па ўсім сьвеце Эміль Вэрхарн) і пісьменьнікаў зьвязалі сваю творчасьць з рабочаю клясаю. Да такіх пісьменьнікаў трэба аднесьці Шарля-дэ-Костэра, Каміля Лемонье, Георга Экгуда, П'ера Бродкурэнса і Жан Пуссэля.

**Шарль-дэ-Костэр**—вядомы ў Бэльгіі некаторымі сваімі творамі, з якіх найбольш вядомым зьяўляецца Легэнда Уйленшпігэля. Шмат гадоў ён—заставаўся нявядомым пісьменьнікам. Французы нейк з непрыязьню глядзяць на паэтаў-бэльгійцаў якія таксама пішуць на францускай мове. Дэ-Костэр адчуваў гэту зьнявагу з боку французаў. Так і памёр Костэр, ня маючы славы вялікага пісьменьніка. Толькі потым ужо—пасьля сьмерці ён зрабіўся вялікім. Зараз сьвяткуюць 100 гадовы юбілей яго нараджэньня. І ва Францыі і ў Бэльгіі ўсюды адзначаюць вялікую мастацкасьць твораў Костэра, які сваю ўсю творчасьць прысьвяціў апісаньню жыцьця і працы рабочых. У той час, як зьяўляліся яго творы, рабочы рух быў яшчэ не надта моцным. Творы Костэра—нібы прарочылі яго разьвіцьце, узмацненьне. Ён у сваіх творах—заўсёды на баку прыгнечаных, слабых. Напісаны творы Костэра простай і чыстай францускай мовай. Костэра лічаць бацькам пролетарскай літаратуры.

Другім пролетарскім пісьменьнікам быў **Эміль Лемонье** (1845—1913 г.). Ён напісаў шмат твораў з якіх найбольш вядомыя творы „Мужчына“. „Канец буржуазіі“ і інш. Сам ён быў—па пахаджэньню мешчанін—дробны буржуа, але ён даў добрыя творы, у якіх намаляваў пакуты пролетарыяў. Ён быў сябрам „Сацыялістычнай Літаратурнай Асоцыяцыі“.

У некаторых творах Лемонье не магчыма знайсьці нічога рабочага,—а толькі мяшчанскае. У гэтых творах ужо гаворыць яго мяшчанскае нутро. Яго лічаць Бэльгійскім Золя па характару творчасьці, але яго творчасьць, як творчасьць амаль усіх фландрскіх пісьменьнікаў, больш яскрава, больш калёрытна.

Цяпер мы жывем у рэволюцыйную эпоху, калі амаль у кожнай краіне ёсьць не адзін, а ўжо па некалькі пролетарскіх паэтаў і пісьменьнікаў, але ў час 1880—1900 г. былі толькі адзінкі, якія не баяліся насьмешак грамады і пісалі творы аб жыцьці другога сьвету—аб жыцьці рабочае клясы.

Імя Каміля Лемонье зьяўляецца такім-жа, якім і імя Золя. Яны жылі амаль што ў адну эпоху і кожны ў сваёй краіне рабілі вялікую справу—высьвятлялі жыцьцё рабочых-пролетараў.

**Георг Экгуд** (1855—1927 г.). Калі ўспомніў яго імя так і ўявіў яго вобраз... Ён некалькі тыдняў таму назад як памёр. Ён быў нашым літаратурным прафэсарам. Калі хто небудзь з нас пасьля сходу хацеў правесьці яго—гэтага сямідзесяцігадовага пісьменьніка дадому, альбо да трамваю, ён пратэставаў і ішоў сам адзін.

Ішоў не да дому, а ў рабочыя кварталы Брусэля. Ён лічыў іх сваімі блізкімі і дарагімі.

Сам ён паходзіў з дробна-мяшчанскай сям'і з Антвэрпэну, Бацька яго быў чыноўнікам, а пад канец гарадзкім галавой Ён рос нібы бяспрытульны —сярод рабочых дзяцей Антвэрпэну. І тады ўжо ён навучыўся любіць рабочых.

Яго творы—гэта гымн рабочаму. У гэтым гымне у кожным радку—протэст супроць эксплёатацыі рабочых.

Ён упісаў свае імя ў гісторыю пролет. літаратуры Бэльгіі. У часе імпэрыялістычнай вайны, у часе нямецкай акупацыі, часта нямецкія афіцэры загадвалі салдатам расстрэльваць нявінных старыкоў і дзяцей. Раз салдаты адмовіліся гэта зрабіць. Афіцэры пагражалі салдатам сьмерцю—але яны ўсё-ж такі-ж не захацелі выконваць загад афіцэраў. Салдаты былі расстрэлены. Экгуд падняў свой голас, каб расказаць сьвету аб гэтых гэроях салдатах, загінуўшых па загаду буржуазнага афіцэрства. Яго кліч аб гэтых гэроях быў такім моцным, што пасьля вайны Бэльгійскі ўрад забараніў яму займаць якую-небудзь пасаду ў культурных установах і звольніў яго з працы як настаўніка-літаратара.

Ён пакінуў некалькі твораў як „Маркус Тыбу“, „Служывы“ і інш. Апошні твор малюе жыцьцё ў салдацкай казарме. У часіны, калі я дзяжурыў, як бэльгійскій салдат у Нямеччыне, я нібы перажываў жыцьцё гэроя Экгуда.

„Аукцыён жабракоў“—цяжкі твор на зьместу, бо малюе жыцьцё самых „падонкаў“—нізоў чалавецтва—жабракоў...

Яшчэ аб адным пісьменьніку, які загінуў ужо крыху маладзейшым (у 40 гадоў)—у 1924 г. Ён

---

1) Леон Берж'е—зьяўляецца адным з маладых пролетарскіх Бэльгійскіх пісьменьнікаў. Ён уваходзіць у згуртаваньне пролетарскіх пісьменьнікаў Бэльгіі. Найбольш характэрныя з яго твораў—апавяданьні: „Назад“, „Іншыя“, „Любі“, „Пакутуй“, А. Берж'е таксама працуе і ў галіне крытыкі.



**Жан Туссель**

зьявіўся на літаратурнай ніве ў 1913 г. Ён ужо прадстаўляе сабой зусім новую эпоху, яго творы ўжо заклік да палітычнага змаганьня.

Золя, Лемоньне і інш. апісвалі толькі жыцьцё рабочых—і больш нічога. Сваімі творамі яны пачалі атаку на капіталізм. Другая эпоха высунула новых пісьменьнікаў. Рэволюцыйны рух падрос дзені-дзе пачаліся забастоўкі—стачкі, пашырыліся арганізацыі рабочых і іх праца. Рабочая кляса пачала наступ на капіталізм. Зьявіліся і новыя пісьменьнікі, якія павінны былі тварыць свае творы ў унісон эпосе.

Адным з такіх пісьменьнікаў быў **П'ер Бродкурэнс**. Яго творы заклікаюць да змаганьня. Але літаратура яшчэ адстае на некалькі гадоў ад жыцьця. Твор Бродкурэнса „Boulle Carcasse" (Буль Каркас)—калі зьявіўся быў ужо неяк не сучасным—бо крыху спазьніўся.

Сучаснасьць патрабуе ад пісьменьніка, каб ён вось сёньня-ж адгукаўся на жыцьцё і такім пісьменьнікам, які шмат яшчэ мае наперадзе зьяўляецца **Жан-Тусээль**. Ён сам рабочы з каменна元ломні. Ён унёс у пролетарскую літаратуру Бэльгіі рабочы дух.

Ён ужо па свойму апісвае жыцьцё сваіх братоў-таварышоў па кірцы ў творы „Сьмерць Бланка". Ён выводзіць у творы рабочага, які пазнаў свой лёс, пазнаў свае становішча, якое вельмі залежыць ад існуючай капіталістычнай сыстэмы. І хто змагаецца з гэтай сістэмай—той ня будзе шкадаваць! Той, хто разьбівае карчму, якая спойвала рабочых—разьбівае адзін з фундамантаў капіталізму. У сэрцы пролетара павінен гарэць агонь змаганьня.

Жан Туссэль даў яшчэ некалькі вельмі яскравых малюнкаў з сучаснага жыцьця Бэльгійскага пролетарыяту.

Пажадана каб літаратура ішла ў нагу з жыцьцём. Мы—маладыя паэты і пісьменьнікі павінны тварыць сучасна эпосе,—тое, што мы перажываем, альбо, што мы будзем перажываць, а ня тое, што перажылі.

Вынік з нашых твораў павінен быць адзін — „да змаганьня бяз жалю сумоты!"

# Даволі калечыць чытача!

Кастрычнік даў сялянам і рабочым волю слова і друку. Друк, як зброя клясавага змаганьня, разросься ў саюзе савецкіх рэспублік так як нідзе. Гэта станаўленьне сьцьвярджае лік падпісчыкаў і чытачоў. Калі да рэволюцыі падпісчыкі лічыліся тысячамі, дык зараз яны лічацца сотнямі тысяч, мільёнамі. Масы зразумелі значэньне друку і яны імкнуцца аўладаць ім, як зброяй змаганьня, як сродкам сацыялістычнага будаўніцтва сродкам, які нясе культуру. Аднак частка нашага друку ня можа, ці ня хоча зразумець свайго вялікага назначэньня. Я маю на ўвазе некаторыя акруговыя газэты, якія часта-густа падносяць сваім чытачом такі матар'ял і галоўнае ў такой форме, што ён не арганізоўвае чытача і ня выхоўвае яго, а, наадварот, прыносіць шкоду. Для прыкладу возьмем Аршанскую акруговую газэту „Камуністычны Шлях".

Перад намі комплект газэты за 1927 год ад 1 да 92 нумару. Няма ніякае магчымасьці прывесьці і разабраць усе тыя недарэчнасьці, якія мы сустракаем на старонках „Камуністычнага Шляху". З гэтае прычыны абмяжуемся нескалькімі нумарамі пачынаючы ад 80 і канчаючы 92.

Цяжка ахапіць поўнасьцю зьмест і форму гэтых нумароў, для гэтага мы пастараемся даць некалькі прыкладаў па асобных галінах газэтнай справы:

1) Матар'ял (яго зьмест, сьвежасьць, каштоўнасьць і г. д.).

2) Надворны выгляд газэты (разьмяшчэньне матар'ялу, клішэ; загалоўкі, друкарскія памылкі) і

3) Форма, у якой матар'ял падносіцца чытачу (пабудова сказаў, выразы, ужываньне слоў, правапіс).

Пра матар'ял шмат гаварыць ня прыходзіцца. Большая яго частка—гэта допісы селькораў, якія часта маюць вельмі вузкае значэньне і лепш падыходзілі-б да насычанай газэты, чым да акруговай. Другая частка матар'ялу, таксама не малая,—гэта перадрук з цэнтральных газэт. І, нарэшце, зусім нязначная частка матар'ялу,—гэта палітычная інформацыя.

Сказаць, што гэты матар'ял надта сьвежы—нельга, бо ён (як перадрук) праходзіць некалькі рук, пакуль пападзе да чытача, і часта чытач з тым пытаньнем, якое трактуе „Камуністычны Шлях" даўно ўжо азнаёміўся, прачытаўшы ў цэнтральнай газэце. Але куды горш стаіць справа з надворным выглядам газэты і яшчэ горш з формаю.

Надворны выгляд газэты мае сваё вялікае значэньне—гэта тая вопратка ў якую апранаецца матар'ял. А ня трэба забываць, што наш чытач (рабочы, селянін) мала яшчэ падрыхтаваны і калі мы падносім яму матар'ял, дык павінны падносіць у такім выглядзе, у такой форме, каб ён адразу кідаўся ў вочы. У гэтым і іграе вялікую ролю надворны выгляд газэты. Аднак „Камуністычны шлях" не зьвяртае ня гэта жаднай увагі. На яго старонках у „кутку рабселькора" вы можаце знайсьці „Па

рады гаспадарам", „Беражэце лес", і г. д. Наагул, матар'ял падаецца без усялякай сыстэматызацыі, без усялякага разьмяшчэньня па аддзелах. Аддзелы то яны ёсьць, але матар'ял вярстаецца так, што ўсё зьліваецца ў адно і не разьбярэш дзе жур, а дзе саладуха.

Пра загалоўкі ў газэце, пра надпісы пад клішэ трэба сказаць адно—дрэнна і дрэнна. Такія агульныя, шаблённыя загалоўкі, як „адчынілі клюб" і г. д., нічога ня кажуць А калі такіх загалоўкаў насадзіць на адну старонку 5-6 штук „адчынілі школу; „адчынілі бібліатэку," „адчыненьне электростанцыі". „Чугуначнікі адчынілі новы клюб" („К. Ш." № 92) дык, выбачайце, таварышы, з рэдакцыі „К. Ш.", загаловак павінен выражаць зьмест і адначасна павінен быць сьвежым, ясным, выразным. Трэба думаць, а не ляпіць, што прыдзе ў галаву.

Пра друкарскія памылкі і гаварыць ня прыходзіцца—іх як бобам усыпана, на кожнай старонцы. Сама рэдакцыя ня можа ад іх ацерабіцца, хоць у кожным нумары дае папраўкі. На аднэй чацьв.ртай старонцы газэты № 88 мы налічылі 27 памылак. Гэта ўжо зьдзек над чытачом!

Нарэшце, мы разьбіраем форму, у якой матар'ял падносіцца чытачу. Тут, як відаць, рэдакцыя зусім ня мае на ўвазе гэтага чытача, бо так будуе сказы, дае такія звароты мовы, што сам чорт нагу паломіць.

Папершае,—скарачэньні. Нельга даваць такіх скарачэньняў, як „фота-громадзяннасьць", ф-цы, „м-ра" і г. д, бо іх ня толькі селяніну, а і адукаванаму чалавеку не зразумець.

Далей. Пабудова сказаў. Прывяду прыклады: 1) Жаночая праца праводзіцца праз уцягненьне палячак-жанчын у делегацкія пункты; 2) К поўдню гурткі станавіліся ўсё больш і больш і ўрэшце зьліліся ў адзін натоўп". Што гурткі станавіліся „больш і больш", ці яны станавіліся больш белымі, альбо сінімі—невядома. 3) „Урэшце дзяржангандаль звароты свае павялічыў за гэты час у 10 разоў, больш росту колькаснаму разьвіцьцю". Якая думка ў гэтым сказе?—Ліха яго ведае. 4) „Для лепшага выпаўненьня гэтай задачы, нам неабходна рашуча выжыць псыхолёгічную дэмабілізаванасьць, надзею „на авось, як небудзь без вайны абыйдзёмся". Калі рэдакцыя не хацела пераіначваць прамовы тав. Будзёнага, дык трэба было даць чытачу-селяніну тлумачэньне што гэта за „псыхолёгічная дэмобілізаванасьць", можна даць яшчэ прыклад, як амаль, цэлы артыкул напісан адным сказам—19 друкаваных радкоў (2 старонка № 91). І такіх сказаў гібель, што хоць-ты расьпеража́ся, дык не зразумеш аб чым гаварыцца, бо покуль дачытаеш да пункту, дык галава закруціцца, дух зойме.

Але ўсё гэта яшчэ нішто ў параўнаньні з тымі „ўзорамі беларускай мовы", якія дае „Камуністычны Шлях".

Першае—звароты. Тут мы можам сустрэць—„асоб із'ятых амнісьціі" „у **буйнай** чайнай", „**прадстаячая** кампанія", „**узыскаць адваротна** 22 рублі", „пачала **раскідвацца**, расьці сетка дзіцячых устаноў", „інструкцыя **па прымяненьню** гэтай пастановы" і г. д. Калі запытацца ў рэдакцыі як гэта „узыскаць адваротна 22 рублі, дык яна скажа—„взыскать обратно 22 рубля". Нехта думаў парасійску, а пісаў пабеларуску і вышла глупства. Папершае, ня кажуць „уцыскаць", а кажуць сыскаць, а надругое, „не адваротна", а „назад"—„Сыскаць назад 22 рублі", Пабеларуску „адваротна" мае значэньне расійскага „обратно", але не ва ўсіх разох і трэба ведаць да якога мейсца яго прылажыць. Альбо „пачала раскідвацца і расьці сетка дзіцячых устаноў." Калі сетка пачала „раскідвацца" (разбурацца), дык яна ня можа расьці. Зноў глупства, зноў не да таго мейсца прылажылі кампрэс. „Інструкцыя па прымяньненю гэтай пастановы"—тут я зусім не разумею і таму перайду да другога пытаньня гэта „беларускія словы" і русіізмы.

Поруч з сотнямі русіізмаў як „цяжолы", „заём" і г. д„ мы сустракаем калечаныя беларускія словы, як напрыклад: „прыкарачэньне справы" замест „спыненьне справы", „запазычце", замест „пазычце", „п;авідлова", замест „правільна", „забараняць", замест „абараняць", „наклёпы", замест „паклёпы" і інш. Сустракаем і нейкія „наватворы" аршанскіх працаўнікоў: „Дарогу **фатаграмадзянкасьці**", альбо „за забойства **грамадчыка**". Што гэта за „грамадзянкасьць"—ці гэта „грамадзкасьць", ці гэта што іншае—расшыфраваць не ўдалося. „Грамадчык"—таксама незнаёмы зьвер.

Трэйцяе пытаньне—гэта правапіс. Трэба прызнацца, што вучні сямёхгодкі лепш ведаюць правапіс, чым супрацоўнікі „К. Ш." Я гэта давяду: вучні ніколі не напішуць як „К. Ш". „барадзьба", а напішуць „барацьба, бо корань слова „бораць", альбо, не напішуць „прозьба", а „просьба", бо слова ўтварылася ад дзеяслова „прасіць", ці яшчэ—не напішуць „безпартыйны", „зкончыліся", а напішуць „беспартыйны", „скончыліся", бо прыназоўнікі без, раз і г. д., калі яны пішуцца разам, дык перад к, п, т. і інш. з пераходзіць у с. Гэтае элемэнтарнае правіла граматыкі трэба завучыць на памяць, шаноўныя аршанцы! Ня шкодзіць і правіла канчаткаў, а то вы часамі пішаце заместа ў „коопэратыве", у „коопэратыву", а гэта гучыць усё роўна як „дробны гандуль". Вы не зважаеце і на тое, што такія звароты як „вызваляючаеся", боручаеся" і г. д. не ўласьцівы беларускай мове і лепіце іх у кожным сказе. Кіньце, таварышы, псаваць мову.

Г. Асот

# Нашто такая няпісьменнасьць?

Газэта—ёсьць праваднік культуры ў масы. Прачытаўшы-ж які сабе хочаш нумар Мазырскай акруговай газэты „Чырвонае Палесьсе" (раней „Савецкая Вёска") прыходзіш да адваротнага выніку. Адна з самых вялікіх адзнак някультурнасьці ёсьць няпісьменнасьць. А пачытаўшы „Чырвонае Палесьсе" хіба-ж можна сказаць што газэта гэтая дапамагае зьнішчэньню няпісьменнасьці? Як-жа яна можа дапамагаць зьнішчаць няпісьменасьць, калі яна сама напісана так няпісьменна, як мабыць можа пісаць хіба дрэнны вучань ня вышэй трэцяе групы сямігодкі.

Возьмем любы нумар. Бяром наўдачу з комплекту—№ 41, перш за ўсё стыль мовы: уся газэта напісана мовай, канцэлярскай, нежывой і цяжкай. Робіцца такое ўражаньне, што людзі мысьляць па расійску так, як мысьлілі чыноўнікі старых канцэлярый. Пасьля мова тая перакладзена, з заха-

*) Разрадка ўсюды наша. М. Р.

ваньнем стылю, на беларускую мову і тады папала цалкам у газэту. Напрыклад у перадавіцы: „*Падпісваемыя* на пазыку Індустрыялізацыі якраз *узмацняя* нашу гаспадарчую моц пазыка ўся будзе скарыстана на пабудову нашае прамысловасьці, паляпшэньне сельскае гаспадаркі“... Або напрыклад, сказы і словы:—„пабаіваецца“, „кіньце *разгаворчыкі*, ідзіце ўсьлед за такімі гарадамі як Масква, Бранск, якія стаяць першымі па падпісцы“, „дзякуючы *пасіленьню* ўвагі партыйнай організацыі гаспадарчаму будаўніцтву“. „Тавара - правадзячая сець“. „накіроўваемая“, „даючых“, „выразіўшайся „услажняючаяся“ „трэбавала“, „ісхадзіць“ і гэтак далей. І гэта ўсё ў аднэй толькі перадавіцы. Або там-жа: „к мсамол за гэты пэрыяд яшчэ больш *сплаціўся*“. Пабеларуску выходзіць, што ён рабіў нейкія выплаты, ды так небарак сплаціўся, што капейкі пры душы ня мае. У гэтым-жа артыкуле ёсьць думка „аб пасіленым вывучэньні беларускае мовы“. Хіба-ж хто паслухае мазырскую газэту, той хто ня хоча вывучаць беларускую мову. Ён-жа адразу можа сказаць: раней чым мне вучыць, павучыся сам. І што ты яму на гэта скажаш?

Тут, з-за недахопу месца ня будзем разглядаць больш нумароў мазырскай газэты. Каму цікава будзе, можа разгледзіць сам. Скажам толькі, што заўсёды газэта гэтая мае такі выгляд.

Яшчэ ў тым-жа нумары частушкі (пад ім подпіс „пераклаў з расійскага З. Падлужны“. (От перлы! М. Р.) У гэтых частушках ёсьць „Таска“—(пабеларуску смутак, па расійску тоска), і „унесены“ „цалковы“ „паскупіліся“, „ад таго та“, „кохты“ „газэтныя дзела“... Ну, і сапраўды браткі мазырцы, от-та ў вас дзела! Проста „таска“, а не „дзяла“.

Напэўна справа тут у тым, што няма працаўнікоў, якія ведалі-б мову. Інструкцыя альбо цыркуляр адно, а газэта другое. Тут сапраўды бяда. У мазырскай газэце справа ідзе так: сёньня працаўнік друкуе артыкул па сельскай гаспадарцы, за подпісам—аграном Падлужны. Назаўтра ён піша артыкул пра камсамольскую нараду, на пасьлязаўтра ён друкуе свае вершы. Адным словам і кравец і шавец і ў дуду ігрэц.

Тут мы не закранаем ляпсусаў у тэхнічнай пабудове газэты. Тут мы зьлёгку разгледзелі толькі мову газэты.

Нам здаецца, што так цягнуцца непавінна. Ня можна, каб газэта распаўсюджвала няпісьменнасьць. Праводзячы ў масу культуру, газэта павінна быць перш за ўсё сама культурная.

**М. Р.**

## Пра некаторыя недахопы кніжнае графікі

У сваім артыкуле „Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы“ (Узвышша № 4) т. Дубоўка, між іншым, паставіў вельмі важнае пытаньне аб недахопах нашае альфабэтнае графікі, выявіўшы яго прыкладам аб адсутнасьці ў беларускім альфабэце літары „ї“, што прыводзіць к таму, што асаблівасьць вымаўленьня некаторых слоў, якія маюць у гаворцы „ї“, пад уплывам кніжнае графікі пачынае губляцца, асабліва ў. „асоб адукаваных“, якія далёка адстаяць ад мовы „простога народу“, які толькі і захоўвае ў чыстым відзе асаблівасьці беларускае мовы.

У сувязі з узьнятым т. Дубоўкам пытаньнем, неабходна закрануць і пытаньне аб недахопу ў графіцы літары „Г“ выбуховага. Мы ведаем, што такія словы, як „мазгі“, „рэзьгіны“, „ганак“ і г. д. маюць „Г“ выбуховае („d“ латынскае), што далёка адрозьнівае вымаўленьні іх ад гуку „Г“ фрыкатыўнага („h“ латынскае). Украінскі альфабэт, (як і беларускія кніжкі дарэволюцыйнага выданьня) мае для „г“ выбуховага адмысловую літару. У беларускіх-жа сучасных выданьнях яе няма, што прыводзіць, як і з літарай „ї“, да калечаньня вымаўленьня (мазhі—замест маздd, рэзьhіны—замест рэзьdіны). Вось, каб пазбавіцца ўнікненьня асаблівасьцяў беларускай мовы і неабходна ўвесьці ў графіку літару „d“ для азначэньня ёй „г“ выбуховага.

*Кв. Шынклер.*

# БІБЛІОГРАФІЯ

### Валеры Маракоў. На залатым пакосе. Вершы. Выданьне. ЦБ Маладняка. Менск—1927. Стар. 72. Цана 65 кап.

Малады поэт Валеры Маракоў выпусьціў у сьвет другі зьборнічак сваіх вершаў. Зборнік складаецца з двух разьдзелаў: „У разгары жыцьця“ і „На залатым пакосе“, усяго ў ім зьмешчана 33 вершы, пры чым некаторыя вершы, зьмешчаныя ў першым разьдзеле не адрозьніваюцца па сваёй тэматыцы і зьместу з ранейшымі вершамі Валерыя Маракова, якія былі надрукованы ў яго першым зборніку „Пялёсткі“. Праўда, гэта зусім зразумела, калі прыняць пад увагу тую акалічнасьць, што творчасьць кожнага поэты або пісьменьніка органічна і паступова пераходзіць ад адных мотываў да другіх,

Новымі для творчасьці Валерыя Маракова мотывамі ў першым разьдзеле рэцэнзуемага зборніку зьяўляюцца мотывы грамадзкія, якім прысьвечана некалькі вершаў як „Песьняй звонкай“, „Яшчэ адно“, „За што?“ „Поэтам“ і інш., а таксама і мотывы каханьня, зусім натуральныя і зразумелыя ў маладога поэта.

З вершаў грамадзкага складу бадай самы лепшы будзе верш „За што“? прысьвечаны памяці трагічна загінуўшым у Амэрыцы таварышом Сакко і Ванцэці.

Гэты нячуваны зладзейскі ўчынак катаваньня капіталістымі бязьвінных рабочых выклікае ў поэты моцнае і пылкае абурэньне:

Цану-ж мы знаем шчырасьці у кожным,
Цану мы знаем ворагам сваім,
І калі будзе сказана нам можна,
Мы пойдзем ўсе з агідаю варожай
Пад крыкі помсты юных і жывых.

(Ст. 28).

Спыняцца на іншых вершах з гэтага разьдзелу я ня буду за недахопам месца, але трэба зазначыць, што ранейшыя мотывы журботы і суму пакідаюць цяпер Валерыя Маракова, бо шляхам іх ён прыйшоў да пераканяньня, што:

„Хороша пець у жыцьці“
і... „У цемры асеньняй начэй
Жыць маладым і шчасьлівым“!

(Ст. 8)

калі

...„Песьняй звонкай
У вачох неба сьвежнага
Усьміхнуўся кастрычнік-юнак“.

(Ст. 9)

Наогул зборнік нам гаворыць аб тым, што поэта працуе над сабой, пашырае тэматыку сваіх вершаў і старанна іх апрацоўвае з боку формы, а самае галоўнае гэта той факт, што творчасьць яго ідзе шляхам паступовага разьвіцьця, а не шляхам заняпаду.

Асабліва яскрава гэта выяўляецца ў другім разьдзеле зборніку, ужо ў самым пачатку якога адчуваецца ў поэты моцны уздым:

Цяпер ў грудзёх другія словы
Другі агонь ў душы жыве,
І гэты сьпеў бадзёра-новы
Да сьветлай праўды сьвет заве.

Зьлятае сон!.. Мінае крыўда!..
Вясна мне глянула ў вакно
Цяпер пад сонцам ў поле выйду,
Куды хацеў ісьці даўно.

І там над рэчкаю і над полем
Я вып'ю новую зару,
Каб песьняй радасьці і волі
Праславіць сьвету Беларусь!

(Ст. 46)

Але побач з гэтым траба адзначыць і тое, што Валеры Маракоў ня выявіўся яшчэ канчаткова ў галіне тэматыкі сваёй творчасьці. Ён вельмі глыбока і чула ўспрыймае навакольле і ўсьведамляецца ў жыцьці і адчуваючы адказнасьць за сваю дзейнасьць перад працоўнымі масамі Беларусі

... поэт адкажа ў новыя сьвеце за ўсё, што марыць і дае — ён шмат увагі аддае аналізу і выяўленьню сваіх асаблівых настрояў, якія часам даюць яму балючыя перажываньні.

Яшчэ трэба зьвярнуць на вельмі добрыя і мастацкія апошнія два вершы ў зборніку: „Маці“ і „Белае зімняе поле“.

Калі мы параўняем іх з тымі вершамі каторымі Валеры Маракоў канчаў у мінулым годзе „Пялёсткі“, то адразу ўбачым у яго творчасьці значны пералом да лепшага. Супыніцца падрабязна на разглядзе паасобных вершаў тут я ня маю магчымасьці, але наогул скажу, што гэта кожны, хто цікавіцца літаратурай прачытае новы зборнік Валерыя Маракова з вялікай прыемнасьцю, а часам і з захопленьнем.

Выдадзен зьборнік добра і акуратна.

Вокладка праўда зусім няпрыгожая і не адпавядае ні назьве кніжкі ні яе зьмесгу. Цана ў 60 кап. за 72 стар. малога памеру, бязумоўна, немажліва вялікая.

А. М.

---

**Д-р І. Цьвікевіч. Што рабіць, каб доўга жыць.** БДВ. Менск 1927 г. Стар. 80. Цана 30 кап.

Шмат хвароб сярод людзей. Захварэе чалавек, а яму і не ў галаве, што часта сам вінават у сваёй хваробе. У хаце поўна жывёл, задуха, смурод. Душыцца чалавек. А дзьвярэй, ці то вакна не адчыніць каб правектрыць хату, пусьціць у яе сьвежае паветра—гэтае здароўе чалавека.

І хварэе чалавек на ўсякія хваробы: то сухоты, то кароста...

Што рабіць, каб выратавацца ад гэтых і іншы хвароб і расказана ў гэтай кніжачцы.

Мала таго, у ёй напісана, як папярэдзіць гэтыя хваробы і як выгадаваць змаленства здаровага чалавека.

Таму кніжачку трэба пачытаць і старому і малому. Карысьць будзе вялікая.

Сівы.

---

**А. Арлоў. Як выгадаваць добрага каня.** БДВ. Менск 1927 г. ст. 20. Цана 8 кап.

Добры конь гэта ўсё ў гаспадарцы. Таму селяніну трэба паклапаціцца, каб выгадаваць самому такога каня. Але ня кожны гаспадар ведае, як яго гадаваць.

Тут гаспадару і паможа кніжачка Арлова. У ёй напісана аб тым, якое значэньне мае добры жарабец, як аглядаць жарэбную кабылу, як папераджаць хваробы жарабят, як гадаваць і падкармліваць сысунка, як яго потым прывучаць да хамута і г. д.

Кніжачка гэтая будзе вельмі карыснай для селяніна. Каштуе танна. Нажаль Выдавецтва не паклапацілася даць у кніжцы пару другую малюнкаў.

Кульгае сям там і мова. Так часта замест „гадаваць“ напісана „вырошчваць“ ды інш., але гэта, урэшце, нічога.

Вясковы.



# Паштовая скрынка

**Алесю Жаўруку.** У Вашых вершах, якія друкуюцца, заўважаем Вам з боку мовы такія хібы: у вершы „Раніца ружовая" вы ўжылі слова „пруд". Гэта русізм, па нашаму будзе сажалка. Старайцеся больш ня ўжываць русізмаў. У выкрэсьленай рэдакцыяй страфе слова рудыя выгаварваецца рудыя —(націск на літару у) небеларускае выговарваньне. У вершы „Новы горад" у Вас „к вольнай працы", а пабеларуску трэба—„да вольнай працы". Рэшта вершаў будзе прарэдагована і выдрукавана.

**С. Ліхадзіеўскаму.** Ваш літаратурны малюнак „Досьвіткам" зварочвае ўвагу на Вашу таленавітасьць. Малюнак гэты ёсьць вельмі ўдзячная тэма для большага ці нават вялікага апавяданьня. Надзвычайна цікавая тэма — абнаўленьне рэвалюцыяй жыцьця. У Вашым малюнку яна пададзена вельмі добра, мастацкасьць малюнку зусім зьнішчае ўсякую голую і немастацкую агітацыйнасьць. Псуе ўражаньне толькі схэматычнасьць. Асабліва ў самым канцы. Малюнак (паколькі ён толькі малюнак, а не апавяданьне —няма востра разгорненага сюжэту) будзе выдрукованы ў газэце. Калі ў Вас ёсьць больш творы, напісаныя прозай—прынясіце іх у рэдакцыю „Чырвонага Сейбіту".

**Кубракову.** Згадаць ці ёсьць у вас здольнасьці пісаць вершы—цяжка. Надосланыя вершы—нішто, але да друку не падыходзяць з тэй прычыны, што тэмы ўзятыя вамі ня цікавыя. Працуйце.

**А. Красаўчыку.** Гэта ня ваш верш, а перакручаная байка Крапівы „Стары й малады". У Крапівы—

„Ня так даўно ў гаспадара
Жарэбчык быў і конь стары".

У вас—

„Нек раз у гаспадара
была старая кабыла
і конь малады".

Альбо яшчэ: у Крапівы—

Пашлі між коняй нелады".

У вас—

„Пашлі ў коняў нелады".

І гэтак скрозь аж да канца. Калі пішаце, дык пішэце сваё, а не перакручвайце чужога, напісанага. Друкаваць вашых вершаў ня будзем.

**Чорту.** Вашы вершы слаба апрацованы; вы ня думаеце над сэнсам і часамі ўстаўляеце для рыфмы слова недарэчы, напрыклад:

„Але што ў арміі—ня жаль".

Гэта „ня жаль" пра армію нічога ня кажа і ўстаўлена толькі для рыфмы да слова „каваль". Больш працуйце. Некаторыя з прысланых вершаў пастараемся выкарыстаць.

**К. Шавелю, Янку Раткевічу, Ружоваму.** Вашы вершы пра чыстку насеньня, пра сяўбу, дзень ураджаю і г. д., друкаваць ня будзем, бо зараз зіма.

**Прыходзкаму, Баравіку, Новасельскаму, Зарэчнаму, Дземідзянюку. Трацэўскаму, Вайтовічу, Ермаловічу, Макасю, М. Шырко, Алесю А-ку, М. Ц. Г., Шчэбятову, Янкоўцу, Конанову, С. С-ку, Вярбіне, Бушылу.** Вам вершаў ня варта пісаць, бо здольнасьцяй у вас не адчуваецца. Трэба больш падвучыцца, а то вы мала пісьменныя, так напрыклад, Бушыла замест „шчасьце" піша „Сьчасца", замест „гады"--„гадй"; альбо Конанаў--замест „Наша вёска" --піша „наш вёска".У вашых вершах няма ні рыфмы, ні рытму і паводле падзелу зробленага ў агляздзе вершаў у мінулым нумары „Ч. С." вашы вершы адносім да першай катэгорыі. Таму, больш падрабязна аб заганах вершаў першае катэгорыі чытайце ў аглядзе вершаў у 18-19 нумары „Чырвонага Сейбіта"

**Серпарэву, М. Асташкевічу, Лаўніку, М. Кукульку, Стальгораву, Альшыцу, Куліку, Вераску, М. Курыловічу, Баранаву, Бярозцы, Царанкову, Дубіцкаму, Барчуку, Яварыныцы К., Пліско, Станкевічу, М. Званцу, Калугіну, Ільлюшэнку, Біралу, Шпільцы, Янушкоўскаму.** Вашы вершы нішто, але друкаваць іх нельга: некаторыя не падыходзяць па тэме, некаторыя з тэхнічнага боку вельмі слаба апрацаваны. Аб заганах глядзіце 18-19 нумар „Чырвонага Сейбіту", бо паводле зробленага ў тым нумары падзелу, вашы вершы адносім да другой катэгорыі.

**А. Жаўруку.** Адзін ваш верш друкуем. Іншыя да друку не падыходзяць, бо адчуваецца скрозь тэматычная аднастайнасьцо.

**Усім літдапішчыкам.** Пішэце вершы асобна ад корэспондэнцый, а то вы пішаце часта на адным кавалку паперы і верш і корэспондэнцыю, а гэта дрэнна таму, што калі такі допіс аднесьці да корэспондэнцый—прападае верш, а калі палажыць у кучу вершаў прападае корэспондэнцыя. Перапісваць-жа вашы вершы рэдакцыя ня мае часу. Таксама трэба пісаць на адным баку паперы і кожны верш на асобным лістку.

Адказы тым літдапішчыкам, якім не дадзены ў гэтым нумары, будуць дадзены часткаю ў газ „Бел Вёска", а часткаю ў чарговых нумарах „Чырвонага Сейбіта".

Адказны рэдактар **Р. Шукевіч-Трацьцякоў.**

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000.